
Ікона «БАЗЫЛЬЯНКІ» → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Гайнаўскі плэнер → 4


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (3359) Год LXV Беласток, 27 верасня 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Вяртанне святамучаніка Юрыя (Сцепанюка) ў пушчанскі куточак

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК



У гэты дзень пушча належала грыбнікам і, здавалася, тут бушавала ўся Гайнаўка. Такога высыпу баравікоў і краснюкоў, як скажуць пасля ў Палічнай, не памяталі найстарэйшыя людзі. Праўда, па вёсках няма каму лётаць за грыбамі. «Не тыя ногі і не тыя вочы, — казалі старыя, — хопіць жменька пад Каледы. Столькі і на загароддзі назбіраеш...».

Але прыродная страсць да збіральніцтва не загінула ў народзе. Зараз у пушчанскія нетры пранікла Гайнаўка, а больш дакладна яе мігранты з Вітава, Доўгага Броду, Войнаўкі, Старыны, Бобенкі, Апакі, Чахоў-Арлянскіх, Курашава, Пагулянкі...

Праўда, мне больш хацелася думаць пра продкаў гайнаўскіх грыбнікоў, якія жылі ў часы святамучаніка Юрыя з Палічнай. Сто дзесяць гадоў назад, 10 верасня 1890 года, магчыма ён сам, тады дзевяціцігадовы хлапчук, хадзіў між тых самых дубоў і елак. Магчыма, ён сам меў тут абраныя месцы, якія сніліся па начах і натхнялі сілай і амбіцыяй. На грыбы не проста ішлі, а гналіся ў шэра-ружовым тумане світанку, каб толькі паспець перад іншымі, апярэдзіць суседзяў, а нават кагосьці з сям'і. У грыбным паходзе тлеў дух першабытнага спаборніцтва, слаўнага і адначасова сакральнага. А самых лепшых грыбнікоў шанавалі ў народзе, лічылі іх шчаслівіцамі з навостраным нюхам...

Думкі пра лес і мінулае прыцьмілі ўсё на свеце. Мы ехалі праз зялёны лабірынт пушчы, спадзеючыся адно на ўнутраны GPS-маніторынг. Дарога прывяла нас на месца. На здзіў мы апынуліся пад самой царквой, абстаўленай нямецкімі і японскімі аўтамабілямі. У ранішнім святле Вэрсток выглядаў неверагодна прыгожым. А найбольш самі людзі, якія цешыліся не толькі *празнікам*, але і самі сабою.

* * *

У Вэрсток я вярнулася пасля сямі гадоў, калі на Уздзвіжанне Святога Крыжа адбылося сімвалічнае вяртанне святога Юрыя з Палічнай на радзіму. У гонар святамучаніка быў адведзены асобны куток з іконай, якую асвяціў сам мітрапаліт Сава. Праўда, культ святога пакуль не пранікнуў далёка па-за межы парафіі, але ў Вэрстоку змянілася шмат.

Найбольш прамовіў ціхі парадак вакол царквы, атулены дубовымі крыжамі, дубамі і цёмна-зялёнай сцяной пушчы. Усё тут стаяла на сваімі месцы і на сваіх нагах. Таксама ўразіла аднаўленая звонку і ўнутры драўляная царква з захаваннем гістарычных дэталяў. Яе ясны інтэр'ер натхніў мясцовых жанчын да пышнага параўнання:

— *Тэпір наша цэрква як ясна королева!* — сказала адна парафіянка.





А як густоўна аднаўлена старая драўляная плябанія!

Мне асабліва спадабаліся гаспадарчыя будоўлі, абкладзеныя кастрагамі з ясных і цёмных паленцаў. Лепшага дызайну і не прыдумаеш для лясной сядзібы, пры тым гэтая «аздоба» заяўляла пра дбайнасць і працавітасць гаспадара. У адрамантаванай плябаніі зараз працуе агратурыстычны пансіянат.

— Тое, што было раней, а цяпер — не параўнаць, — кажа бацюшка Ян Хадакоўскі. — Усё тут змянілася на плюс.

Айцец Хадакоўскі служыў на парафіі ў пачатку 80-х гадоў, калі ў парафіі цудам зводзілі канцы з канцамі. Кожны маліўся, каб хутчэй перабрацца ў больш абжытае месца...

Не менш здзівіла мяне духова-ментальная змена сярод пушчанскіх мужчын. Сем гадоў таму, калі ішла літургія, яны выстойвалі вакол царквы з закладзенымі рукамі і каментавалі свае штодзённыя справы. А зараз, хоць на двары панавала пагода, усе як адзін муж стаялі ў царкве і маліліся разам з мітрапалітам, іерархамі і сотняю духавенства, што з'ехалася ў Вэрсток з усёй Бельска-Варшаўскай епархіі.

— Бог прамаўляе да нас праз святло, — гаварыў мітрапаліт Сава, — праз тое святло, якое і ёсць жыццё. Ён назначае сярод людзей сваіх абраннікаў-святых, каб яны былі духовымі ліхтарамі, якія б асвятлялі наш змрочны жыццёвы шлях. У хрысціян заўсёды цяжкі, пакутны шлях. Ён быў такім раней, такім ён і зараз, і будзе такім заўсёды, а той, хто ў гэтым сумняваецца, нічога не разумее. Сёння мы сабраліся тут дзеля святамучаніка Георгія, сына гэтай зямлі, якога Бог адорыў святлом і надзяліў задачай. І ён змагаўся з цемрай у час вялікага праследу Царквы ды абараняў людзей і свет сваім інтэлектам і малітвамі.

Мітрапаліт, які толькі што выйшаў з хваробы, нагадаў і пра Святых Падляшскай зямлі, кананізаваных 25 ліпеня гэтага года. Таксама гістарычнай падзеяй ён назваў сённяшнюю сустрэчу, то-бок, асвячэнне капліцы ў гонар святамучаніка Георгія ў Палічнай.

* * *

Дарога з Вэрстока ў Палічну таксама ішла праз пушчу, аднак тут ужо мы не пабачылі грыбнікоў. І гэта прамовіла як

чытайце ☞ 10





# На разломе

Пяцьдзясят дзён у Беларусі працягваецца супрацьстаянне народа і ўлады. Пяцьдзясят дзён, сем тыдняў запар, амаль бесперапынна людзі пратэстуюць супраць фальсіфікацыі выбараў, узурпацыі ўлады, татальнага беззаконня і жорсткага пераследу грамадзян паводле іх палітычных поглядаў. Мур антынароднай улады пакуль не рухнуў, хоць кожны дзень з гэтай сцяны сыплецца пясок і вывальваецца па некалькі цаглінак. Колькі так яшчэ можа доўжыцца, ніхто не можа спрагназаваць. Усе палітычныя прадказальнікі ўжо не раз былі пасаромленыя тымі падзеямі, якія зняпраўджвалі палітычныя прагнозы, якія адбываюцца ў Беларусі ў гэтым парадаксальным, незвычайным, анамальным 2020 годзе. Годзе, пра які гісторыкі пазней напішуць тамы даследаванняў. Але гэта будзе потым, праз час і дэталёвае асэнсаванне гістарычнага шляху і працэсу ратавання краіны і яе дзяржаўнасці.

А зараз працягваецца вайна супраць мірных пратэстоўцаў і нацыянальных сімвалаў. Бел-чырвона-белая сімволіка раздражняе цемрашалаў, як і ўсё сапраўднае беларускае. Але ўжо добра і выразна відаць, якую сімволіку выбірае пераважная большыня грамадства. Вытворцы і прадаўцы белай і чырвонай тканіны, белай і чырвонай фарбы хіба адзіныя ў гэты складанейшы для эканомікі час, хто мае прыбытак ад рэалізацыі сваёй прадукцыі. Людзі малююць, шыюць, клеяць, ствараюць у розны спосаб рэальныя і віртуальныя выявы бел-чырвона-белага сцяга і „Пагоні". А людзі ў чорным, у колерах хакі, бегаюць за сваімі патрыятычнымі суайчыннікамі, учыняюць на іх сапраўднае паляванне, зрываюць нацыянальныя сімвалы, замалёўваюць іх. „Ды не знішчыць пагоняй таго, хто жыве пад Пагоняй", як напісаў паэт. Уся Беларусь становіцца бел-чырвона-белай і гэта абсалютна новая рэальнасць часу.

Людзі выходзяць, іх жорстка хапаюць, б'юць, кідаюць за краты, назаўтра выходзяць новыя. Нібы каса на камень наскочыла, але не зважае на гэта і працягвае рабіць сваё. Такая зацятасць і непахіснасць народу сведчыць хіба пра тое, што кампраміс ужо немагчымы, і ніхто нікому не даруе таго, што адбылося. Склалася сапраўды такая рэвалюцыйная сітуацыя, калі „нізы" не хочуць жыць па-старому, а „вярхі" не могуць кіраваць па-новаму. Гэтыя „вярхі" не здольныя ні на якую трансфармацыю ці эвалюцыю, на нейкі нават мінімальны дыялог ці кампраміс. Яны многа гадоў жылі, абапіраючыся выключна на хлусню і сілу — гэтыя дзве нагі аўтарытарнага рэжыму. І калі адна нага — хлусня — зламалася, і ўжо ніякі гіпс, ніякія лекі ёй не дапамагаюць, рэжым устойвае толькі на адной назе — брутальнай сіле. Беларусь спынілася на гэткім расколе паміж уладай і народам, на разломе ўяўлення пра цяперашняе і будучае краіны. І колькі гэта будзе доўжыцца — ніхто не ведае. Некаторыя называюць сімвалічную дату — 5 лістапада — гэта той тэрмін, калі па цяперашнім заканадаўстве дакладна скончыцца апошняя кадэнцыя Лукашэнкі. Але калі па законе і па ранейшай Канстытуцыі, то гэтая кадэнцыя скончылася намнога раней. Зараз жа скончылася нават фармальная і фальшывая легітымнасць. Недавер былому прэзідэнту дзяржавы мае абсалютна выражаны характар, выяўлены выразна як пры апошнім галасаванні, так і на вуліцах і цэнтральных пляцах беларускіх гарадоў.

Зараз шмат пішуць пра злачынствы рэжыму ў жніўні гэтага пераломнага і ў многім трагічнага лета. Але многія не памятаюць, ці не ведаюць, калі ў найноўшай гісторыі Беларусі адбыліся першыя забойствы. А яны пачаліся не ў жніўні бягучага года і нават не ў змрочным 1999 годзе, калі бясследна зніклі Юрый Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі. У верасні гэтага года споўнілася роўна 25 гадоў з таго часу, калі ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці быў расстраляны і збіты мірны паветраны шар, які выпадкова ветрам занесла на тэрыторыю Беларусі з Польшчы. Тады загінулі два чалавекі — амерыканскія грамадзяне. Гэта было абсалютна нематываванае забойства. А тагачасны амерыканскі дзярждэпартамент часу кіравання ў Белым доме прадстаўніка дэмакратычнай партыі Біла Клінтана так і не дамогся пакарання вінаватых, хоць гэта не ў традыцыях ЗША. Такое папушчальніцтва, канешне, таксама нельга зразумець.

Паводле статыстыкі праваабаронцаў агульная колькасць затрыманых у Беларусі за час пратэстаў на 21 верасня перавысіла 12 100 чалавек, што складае 0,12% ад усяго насельніцтва краіны. Гэта ўжо больш, чым было інтэрнавана ў Польшчы за ўвесь час „Салідарнасці". Тады ў Польшчы за перыяд ваеннага становішча пацярпела 10 123 чалавекі. Гэтая сумная статыстыка вынікаў падзей для таго, каб зразумець маштаб пратэстаў і таго, што адбываецца ў Беларусі зараз.

Беларускі народ працягвае вынаходзіць усё новыя формы мірнага супраціву і выяўлення сваёй пазіцыі. У век электронных тэхналогій гэтыя магчымасці пашырыліся. Днямі беларускія кібер-партызаны апублікавалі на тэлеграм-канале NEXTA спіс прозвішчаў больш як тысячы ўдзельнікаў сілавых структур з асабістымі данымі і звесткамі пра гэтых людзей. Для карнікаў, якія цэлы час хаваюць свае твары за маскамі і балаклавамі і ў якіх ніколі не прачнецца сумленне, гэта, падаецца, стала моцным псіхалагічным ударам. Можа яны ўрэшце задумаюцца пра тое, што ўсё тайнае рана ці позна стане вядомым, а злачынствы супраць чалавечнасці не маюць тэрміну даўніны.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Няшмат — і так многа

Урэшце сусед усміхнуўся мне. Мы ведаем адзін аднаго ад карапузаў і спалучае нас гісторыя таксама нашай вёскі. Дзякуючы гэтай гісторыі, якую калісьці расказвалі дарослыя падчас «шэрай гадзіны», калі пасля зваранай вячэры дагаралі апошнія дровы пад плітою, мы спазнавалі ўсімі смакамі дзяцінства — гісторыю ўласных і суседскіх родаў. Дзякуючы родам пазналі мы нарваўскі ландшафт, з якога мы самі выраслі. Мы ведалі, у каго быў шалёны дзед, а ў каго бабуля-шаптуха, чый прадзед блукаў па свеце ў салдацкай паняверцы, хто займаўся сплавам, а хто пчалярствам. Мы ведалі пра продкаў столькі, колькі нам трэба было ведаць, і нават больш, хаця дастаткова, каб нас паважалі. І калі мы навучыліся прымаць напавер казкі пра легендарныя, хоць і надзвычай міфалагізаваныя дасягненні нашых продкаў, нарэшце былі гатовыя працягваць гісторыю нашай вёскі. Не абламалі ніводнай галінкі. Але як так атрымалася, што апошнія паўгода я быў нябачны для свайго суседа? Ён не размаўляў са мной, ні адказваў на «добрай раніцы». Наш агульны аповед абарваўся так, быццам у яго не было пачатку, як быццам ён ніколі не скончыцца. Гэта было яшчэ больш балюча, бо доля гарадскіх прышэльцаў, якія насяляюць нашы закінутыя хаты, у адносінах да ўкаранелых сваякоў пастаянна павялічваецца. Чужы аповед прарываецца ў вёску і засыпае крыніцы яе ўласнай гісторыі. Гэтак і ў многіх іншых вёсках на Падляшшы.

Бог ведае, што кіравала маім суседам. Пакрыўдзіўся? Але з-за чаго? І ніколі не даведаюся. Ведаю, усё ж, што ён у патрэбны час пастукае ў маю хату і мо прынясе з сабой бутэльку. На згоду? Але мы не спрачаліся і нават ніколі не сказалі адзін аднаму дрэннага слова. Вядома, пачастуемся, паразмаўляем пра ўсё і пра нішто, але змоўчым пра важную прычыну нашай сустрэчы. Нічога афіцыйна не ведаю і, напэўна, не буду да канца ўсведамляць прычыны суседскага амбарасу. І прама спытаць не атрымаецца. Такім чынам, я парушыў бы няпісаны рытуал «згоды» і пакінуў бы суседа сканфужаным. Бо ён не прыйшоў бы да мяне, і далей глядзеў бы бокам. Калі ён не касіцца, у мяне няма падстаў распытваць яго пра тое, чаго ўжо няма. Ці хто ведае, ці здарылася гэта калі-небудзь? Можа, гэта было вынікам паклёпу, чутак? Тады балела, але што балела? А што цяпер баліць? Гэта была б прычына магчымай разгубленасці суседа. Ісціна адбываецца ў яе часовым кантэксце. Па-за сваёй рамкай яна перарастае ў міфалогію паўпраўды.

Людскія адносіны ў маёй вёсцы цякучыя і непрадказальныя. І тым больш такія, чым больш фармальныя добрасуседскія саюзы, калісьці вельмі моцныя, калі іх галоўным зместам была ўзаемадапамога, звязаная з працай на гаспадарцы. Яны грунтаваліся на тонкай дыпламатыі, але таксама і на дакладным разліку. Парушыць гэты парадак магла найменшая сварка. Працей кажучы, адкрыты канфлікт паміж суседзямі, вербальны альбо фізічны, вёсцы быў нявыгадны. У невялікіх, закрытых супольнасцях, звязаных цеснымі сувязямі ці сваяцтвам, ён уцягнуў бы ўсіх сваіх суседзяў, адмяняючы бягучыя і шматступенныя саюзы і пагражаючы існаванню ўсёй абшчыны. Такім чынам, вёска навучылася душыць адкрытую агрэсію. Пакуль гнеў чалавека не закіпеў, лепш было змаўчаць, саступіць, чым адкрыта брацца за чубы. Нявыказаныя словы, нязробленыя ўчынкі не шкодзяць. Але іх патэнцыйная прагва літаральна вісіць на кончыку языка і хаваецца ў міжвольна сціснутым кулаку. Насуперак ілюзіі, яна рэальная па сваіх прыкметах, як выказаныя лаянкі, прастацкія рукапашкі, бо моцна ўплываюць на калектыўнае ўяўленне, сілкуючыся страхамі супольнасці. Таму вёска выпрацавала праз пакаленні эфектыўны механізм тушэння адкрытай агрэсіі. Безумоўна, тое «набздычанне» майго суседа — яго справа. Але ўсё гэта разам — частка аповеду, які я і сусед працягваем. Нават нягледзячы на тое, што ў эпоху цалкам тлустых сельскіх пенсій, дапамог, субсідый ЕС і нягаснучых тэлевізараў, калі адзіны інвентар у вёсцы гэта пару дзясяткаў курак, некалькі сабак і катоў, саюзы, створаныя дзеля дапамогі, ужо не маюць значэння. Нікому непатрэбныя дадатковыя рукі для працы, конь ці жнярка, бо наўрад ці хто яшчэ працуе на зямлі. Кожны неяк спраўляецца сам. Засталіся толькі саюзы, заснаваныя на форме. Звычайныя ветлівасці прадстаўляюцца адзін аднаму з мінімальнымі выдаткамі. Гэта няшмат, але дастаткова, каб гісторыя маёй вёскі працягвалася па-свойму. Аж да яе канца.

Міраслаў ГРЫКА



## Беларускія гладыятары

Беларускія гладыятары,
тыя з нас, хто пакуль што спіць!
Нібы лава ў вулканным кратары,
кроў ад гневу ў грудзях кіпіць!
За братоў, за сясцёр, матуляў,
за азёры праліітых слёз,
за прабітае сэрца куляй,
за зламаны ў засценках Лёс!..
Дык выходзьма на Плошчу Волі,
куды клікаў каліс Кастусь, —
па Надзею, па Дух, па Долю,
па шчаслівую Беларусь!

*20 верасня 2020 г. 13:00.*
*Эдуард АКУЛІН*

## Замова

Святлынь ліецца
з беларускіх сэрцаў.
Ад зямлі скатаванай
у неба сонцам тканае.
Праўдзіва, шчыра
з Дзядамі з Выраю
душы яднаюцца,
мроі з Наві ў Явію
ўжыццяўляюцца.
Насуперак крат
Сястра і Брат.
Дайце Нам, Божа,
устаць прыгожа,
прагнаць падман,
з'яднаць Славян
вакол Роду, Волі
у рук родных коле.

*Міра ЛУКША*

* * *

Чортавы завушнікі
мірны народ душаць.
Газам проста ў вочы!
Пасобнікі Ночы!
Шарпаеце Цноту,
нелюдзі і скоты!

*Міра ЛУКША*

# Ліпшчане моляцца да Базыльянкі



Калісьці пакланяліся ёй у невялікіх драўляных святынях. Была сведкай бурлівай гісторыі прыбаброўскіх зямель ды сама садзейнічала шматлікім цудам. Базыльянка заступалася за ўсіх — католікаў, праваслаўных, уніятаў, якія заносілі да яе просьбы. Зараз у санктуарыі Маці Божай Анёльскай у Ліпску з бакавога алтара выслухоўвае просьбаў паломнікаў з усяго свету. Усё-такі ікона карыстаецца асаблівым культам сярод мясцовага насельніцтва. Паводле іх слоў Базыльянка сама выбрала Ліпск на сваё месца.

— У кожную сераду вечарам перад іконай Базыльянкі збіраюцца людзі, каб супольна памаліцца і прасіць дапамогі, — кажа спадарыня Галіна, якая якраз мела дзяжурства ў касцёле. — Я сама — настаўніца, таму ў час канікулаў маю больш часу і ахвотна дапамагаю ксяндзу.

На драўляным стале, за якім сядзіць спадарыня Галіна, ляжаць карцінкі Маці Божай Базыльянкі блаславёнай Марыянны Бярнацкай — заступніцы свякрух і сынавых, а таксама кніжкі пра гісторыю Ліпскай парафіі, намаганнем якой сёння таксама выходзіць штотыднёвы бюлетэнь „Базыльянка".

— Нябесная заступніца нашай парафіі — Маці Божая Анёльская. У галоўным алтары маем яе прыгожую скульптуру, — тлумачыць спадарыня Галіна, паказваючы ў бок палаценца, якое падымаецца толькі ў час важнейшых службаў, каб паказаць натуральных размераў, вельмі жаночую скульптуру Марыі. — Некаторыя нават гавораць, што мы больш ушаноўваем Базыльянку, чым Анёльскую, хаця Анёльская наша заступніца. Чаму так? Не ведаю, яна нейк нам бліжэйшая.

Каб расказаць гісторыю іконы Маці Божай Базыльянкі трэба сягнуць XV стагоддзя. Менавіта тады рукой невядомага мастака на драўляных дошках была намалявана выява Маці Божай з дзіцём на руках. Ікone ад стагоддзяў пакланяліся грэка-католікі, пазней праваслаўныя, а зараз католікі. „Базыльянка" — так мясцовыя называюць ікону Божай Маці — зараз знаходзіцца ў ліпскім касцёле. Дзякуючы многім заступніцтвам, але таксама складанай гісторыі гэтай часткі Падляшша, ікона стала неад'емнай часткай мясцовай тоеснасці.

— Першапачаткова яна апынулася ў невялікай драўлянай царкве ў Скаблеве — вёсцы непадалёк Ліпска, — тлумачыць пробашч парафіі кс. Вальдэмар Савіцкі. — Карціна была прывезена з Віленшчыны манахам Базыльянскага ордэна. Верагодна яму вельмі спадабалася фігура Ісуса Хрыста, якая стаяла на мясцовых могілках, аднак жыхары Скаблева не хацелі яго дарма аддаваць. І так Ікона Божай Маці была прывезена на нашы землі як падарунак узамен за скульптуру.

Уніяцкая царква была перанесена ў Ліпск, дзе ікона Базыльянкі пачала славіцца многімі цудамі, весткі аб якіх хутка пачалі распаўсюджвацца па ваколіцы.

— Адна з выратаваных расказала мне сваю гісторыю, — кажа ксёндз Савіцкі.— Пяцігадовае дзіця захварэла на цяжкае запаленне мазгавой абалонкі. Доктар з Сухаволі не даваў гэтаму дзіцяці шансу на пражыццё, а нават калі б так здарылася, дзіця мела б стаць інвалідам. Маці паклала хворую дачушку перад іконай, просячы, каб Маці Божая яе забрала, паколькі няма ў яе магчымасці на нармальнае жыццё, або выратавала ад хваробы. Прысутныя ў касцёле таксама далучыліся да малітвы адчайных бацькоў. Сёння тое дзіця гэта дарослая жанчына, якая мае ўжо ўласных унукаў. Усё дзякуючы Базыльянцы.





У магутнасць заступніцтва Базыльянкі паверылі таксама акупанты ў час падзелаў, якія палічылі, што менавіта выява Базыльянкі перашкаджала русіфікацыі мясцовых жыхароў. У 1875 годзе сувальскі губернатар загадаў зачыніць касцёл у Ліпску, а пазней разабраць. Ікона Маці Божай была перанесена ў праваслаўную царкву. У 1914 годзе, калі рускія ўвайшлі ў Ліпск, рабавалі ўсё магчымае. Былі таксама спробы вывезці ікону Маці Божай Базыльянкі, якая на той час знаходзілася ў мясцовай царкве. Відавочцы падзеі ўбачылі, што чацвёра салдат не змаглі падняць абраза, які важыў толькі 14 кілаграмаў. Верагодна, бацюшка, які быў пры гэтым здарэнні, меў тады сказаць: «Маці Божая хоча тут застацца. Пакіньце яе ў спакоі».

Зараз, у XXI стагоддзі, аказалася, што чарговай пагрозай для знакамітай карціны з'яўляецца чарвяк, які пачаў нішчыць драўляныя элементы алтароў.

— Нам удалося знайсці крыху грошай, каля 160 тысяч, большую частку якіх выдаткавалі на ратаванне самых важных прадметаў, у тым ліку на аднаўленне Іконы Божай Маці Базыльянкі, што не сведчыць аб тым, што іншыя скульптуры і абразы менш важныя, — адзначыў пробашч.— Увогуле дрэва ў касцёле пашкоджана і трэба яго паслядоўна ратаваць. Пачалі мы з Базыльянкі, бо Базыльянка — гэта каралева нашай зямлі. Калі б не яна нам дапамагала, то хто?

Працы ў Ліпску торуньскія рэстаўратары пачалі ўжо ў мінулым годзе. Бакавыя алтары — Маці Божай Анёльскай і Найсвяцейшага Сэрца Езуса, былі завершаны з канцом жніўня. Частка элементаў была адноўлена ў Торуні.

— Працуем у шматлікіх касцёлах і сапраўды ведаем розныя паводзіны прыхаджан, або святароў, — сказала рэстаўратар Клаўдзія Каненберг.— Працуючы цэлы дзень у касцёле можна стаць сведкай самых дзіўных сітуацый, але тут сапраўды заўважалася адзінства прыхаджан. Нам таксама цікава пазнаёміцца з людзьмі, іхнімі расказамі, каб лепш зразумець месца. Радасць прыхаджан у Ліпску ад рэканструяваных алтароў перадавалася і нам. Хаця ікона Базыльянкі, на маю думку, была распісана пазней, чым у XV стагоддзі, у мастацкім плане яна найбольш каштоўная ў гэтым касцёле.

Ікона Маці Божай Базыльянкі была каранавана біскупам Бернардам Францішкам Дэмбекам у 1931 годзе. Кароны, якія зараз упрыгожваюць ікону, блаславіў папа Ян Павел II. Пабачыць цудадзейную ікону Базыльянкі можна ў любую пару дня. Святыня амаль цэлы час адкрыта для турыстаў і паломнікаў, якія з-за культу блаславёнай Марыянны Бярнацкай часта наведваюць касцёл.

— Можа няма натоўпаў людзей, але ў час канікулаў амаль штодзень нехта сюды заглядае і моліцца перад іконай, — кажа Паўліна, ліцэістка дубróўскага ліцэя, якая таксама дзяжурыць у касцёле. — Нуда? Не, з-за каранавіруса і так я не рабіла асаблівых планаў на канікулы. Паказваю турыстам і паломнікам касцёл, крыху расказваю ім пра гісторыю, калі нечага не ведаю, званю па нашага пробашча. Не ведаю, можа гэта дзякуючы Базыльянцы такое дзяжурства мяне супакойвае.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

# Гайнаўскі пленер разьбы

## з удзелам скульптараў з Польшчы

У гэтым годзе была пагроза, што другі раз будзе спынена арганізацыя Гайнаўскага міжнароднага пленэру разьбы па дрэве, які ладзіцца з паловы шасцідзясятых гадоў. У гісторыі пленэру перапынак адбыўся на зломе сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў. Пленэр быў адноўлены толькі тры гады таму. У гэтым годзе з-за эпідэміі каранавіруса ў XVIII пленэры разьбы па дрэве, які праходзіў з 10 па 29 жніўня, прынялі ўдзел толькі айчынныя скульптары — з Гайнаўкі, Беластока і Любліна. Таксама ўпершыню быў ён наладжаны ў Надлясніцтве Гайнаўка, побач пушчанскага лесу. У пленэрах разьбы па дрэве надалей удзельнічае беларускі жывапісец і скульптар Віктар Кабац з Гайнаўкі, які прымаў у ім удзел яшчэ ў сямідзясятых гадах, а ў 1976 годзе быў яго камісарам.

Былы дырэктар Пачатковай школы № 2 у Гайгнаўцы, разьбяр-аматар Уладзімір Мусько быў камісарам першага па аднаўленні разьбярскага пленэру ў 2017 годзе, калі вырашалася яго будучыня і калі трэба было ўсё нанава сыграць. Аднак пасля цяжкай хваробы спыніў ён сваю актыўнасць. Сёлета ў час пленэру Віктар Кабац успамінаў свайго сябру Уладзіміра Мусько і яго намаганні па аднаўленні гайнаўскага пленэру, у якога звыш пяцідзесяцігадовая традыцыя.



Удзельнікі і арганізатары пленэру на фоне разьбы Віктара Кабаца

— Гайнаўка ў сямідзясятых гадах была другім цэнтрам разьбы па дрэве ў Польшчы, побач Закапанага. Разьбярскія пленэры ў Гайнаўцы пачалі ладзіцца ў палове шасцідзясятых гадоў. Тады было арганізаваных чатырнаццаць такіх мерапрыемстваў. Наш пушчанскі горад славіўся тады на ўсю Польшчу. Разьбяры з розных краін свету прыязджалі ў Гайнаўку, каб тут працаваць у дрэве. У нашых пленэрах прымалі ўдзел вядомыя скульптары з Польшчы, Аўстраліі, ЗША, Германіі, Чэхіі і Літвы, а іх творы паказваліся, між іншым, у Нацыянальным музеі ў Варшаве, на экспазіцыях у Кракаве, Любліне і ў Мюнхене. Запамяталася, што з Мюнхена заказалі канкрэтную разьбу. Пасля быў доўгі перапынак. Мы з Уладзімірам Мусько аднавілі арганізацыю пленэраў і рашыліся намагацца адкрыць у Гайнаўцы галерэю пленэрнай скульптуры, — сказаў Віктар Кабац. — У 1963 годзе мастацкі пленэр праходзіў каля будынка Прыродазнаўчага музея ў Белавежы. Тады былі выкананыя інсталяцыі ў прасторы з паваленых ветрам у парку бяроз. Гэта было штуршком для арганізавання пленэраў у Гайнаўцы. Яны пачалі ладзіцца ў гарадскім парку, а пасля на тэрыторыі Гайнаўскага прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці, якое стала патронам пленэраў і дапамагала нам у іх правядзенні. Я быў камісарам пленэру ў 1976 годзе. Тады было відаць вялікае значэнне гэтага міжнароднага мерапрыемства ў праслаўленні Гайнаўкі на ўсю краіну і замежжа. Наш пленэр чатырнаццаты раз ладзіўся ў 1979 годзе, пасля якога наступіў перапынак ажно да 2017 года. Зараз працягваем нашу традыцыю, а створаныя скульптуры паказваем у розных месцах у Гайнаўцы. Сёлета пакажам іх у Беластоку. Рыхтуемся да пастаяннай экспазіцыі ў гарадскім парку ў Гайнаўцы.

Падвядзенне вынікаў разьбярскага пленэру, які наладзілі Гайнаўскі дом культуры, Гарадская ўправа ў Гайнаўцы і Надлясніцтва Гайнаўка і адкрыццё пленэрнай выставы адбылося 29 жніўня ў надлясніцтве, непасрэдна каля старога пушчанскага лесу.

— Спачатку з-за эпідэміі каранавіруса пленэр у гэтым годзе не планаваўся. Аднак Віктар Кабац заклікаў не рабіць перапынку, паколькі папярэдні зацягнуўся на многа гадоў. Мы падумалі, што ва ўмовах эпідэміі сарганізуем пленэр толькі для мастакоў з Польшчы. Сёння відаць, што гэтае рашэнне апраўдалася, а скульптары выканалі цікавыя працы, якія будуць прэзентавацца ў розных месцах, — заявіў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які адкрыў пленэрную выставу.



Камісар Гайнаўскага пленэру разьбы па дрэве Станіслаў Асташэўскі



Скульптура «Дуб, які стаў зубром» – калектыўная праца Анны Світальскай-Свіць і Юрыя Іваціка

Выстава працуе побач месца, дзе каля трох тыдняў працавалі скульптары з Гайнаўкі, Беластока і Любліна. Рэзультатам іх работы сталі цікавыя скульптуры вялікіх памераў, якія можна паглядзець на выставе. У гэтым годзе побач мастакоў працавалі валанцёры, якія абнавілі лепшыя скульптуры, выкананыя на папярэдніх пленэрах. Яны разам з сёлетнімі працамі маюць паказвацца на экспазіцыях у Беластоку і ў іншых мясцовасцях.

— Наглядаецца вялікае зацікаўленне разьбой, выкананай у час гайнаўскіх пленэраў, паступаюць прапановы паказваць іх у іншых гарадах Польшчы. Існуе магчымасць рэалізаваць гэтыя прапановы таксама з дапамогай Дзяржаўных лясоў, — заявіў надляснічы Надлясніцтва Гайнаўка Марыюш Агейчык.

— Папярэднія пленэры разьбы па дрэве праходзілі каля будынка Гайнаўскага дома культуры. У гэтым годзе ў рамках рэвіталізацыйных прац побач будынка была пасеяна трава. Яна яшчэ не ўкаранілася і магла б быць знішчана ў час пленэру. Таму было прынята рашэнне арганізаваць пленэр побач пушчанскіх дрэў на пляцоўцы Надлясніцтва Гайнаўка. Мы, як Гайнаўскі дом культуры, дапамагалі ў арганізацыйных справах і сёння з'яўляемся суарганізатарамі мерапрыемства, якое падводзіць вынікі пленэру. На экспазіцыі можна паглядзець цікавую скульптуру, — заявіла нядаўна прызначаная на пасаду дырэктара ГДК Барбара Садоўская.

Адкрыццю выставы бляску дадалі народныя танцы ў выкананні калектыву «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры.

Тэмай сёлетняга пленэру была «Таямнічая Белавежская пушча» і большасць прац непасрэдна спасылалася на пушчанскія краявіды або матывы. Аднак на больш абстрактных работах трэба было дашуквацца пушчанскай сімволікі.

— Я першапачаткова быў незадаволены, што пленэр не будзе ладзіцца за будынкам Гайнаўскага дома культуры, у цяньку старых дубоў. Аднак цяпер памяняў я свой падыход да новага месца на тэрыторыі Гайнаўскага надлясніцтва. Тут падчас летняй спёкі мы большасць часу працавалі ў цяньку і дыхалі пушчанскім паветрам. На пленэры ўзніклі цікавыя работы на высокім мастацкім узроўні з матывамі Белавежскай пушчы, дзякуючы якой Гайнаўка славіцца на ўсю Польшчу. Зараз хацелі б мы, каб пленэры надалей ладзіліся ў надлясніцтве і каб традыцыя разьбы ў дрэве прадаўжалася тут як найдаўжэй. Мы рады, што паявіліся прапановы, каб нашы скульптуры прэзентаваць у розных гарадах Польшчы. Зараз вырашаецца пытанне па арганізацыі пастаяннай выставы нашай скульптуры ў гарадскім парку ў Гайнаўцы. Я выконваў разьбу, у якой адклікаюся да постаці жанчыны, але адначасна таксама да пушчанскага матыву, — сказаў камісар пленэру Станіслаў Асташэўскі з Беластока, які за работу «Сімбіёзу» атрымаў трэцюю ўзнагароду. Паінфармаваў ён, што лепшыя скульптуры з сёлетняга і папярэдніх пленэраў будуць паказвацца ў Музеі разьбы Альфонса Карнага ў Беластоку.

У сёлетнім пленэры з-за эпідэміі не ўдзельнічалі скульптары з Беларусі, якія апошнім часам у Гайнаўку прыязджалі штогод.

— Атмасфера ў нас была добрай і творчай. Я раней прымаў удзел у іншым мастацкім пленэры і таму сёлета выканаў тут толькі адну скульптуру. Думаў, што пастаўлю яе на сваім дачным участку каля Семяноўскага вадасховішча. Аднак за яе ў конкурсным аглядзе прызначылі мне другую ўзнагароду і таму забяруць яе на выставу ў Беласток, а пазней будуць паказваць на іншых экспазіцыях, — сказаў Віктар Кабац. — На маёй скульптуры бачны малы арлец, які падрываецца ў палёт з пушчанскага дрэва. Каб паказаць магутнасць гэтай птушкі і яе асаблівасці, я падпальваў маю разьбу. Гэта найбольш трывалы спосаб захавання на скульптуры колераў і адценняў.

У пленэры ўжо чарговы раз удзельнічаў гайнаўскі скульптар Юры Івацік, які выканаў дзве працы самастойна і адну калектыўна разам з гайнаўскай мастачкай.

— Скульптуру «Дуб, які стаў зубром» (была вылучаная ў конкурсе, — А. М.) я выконваў разам з Ганнай Світальскай-Свіць. Гэтая разьба спасылаецца на сімволіку Белавежскай пушчы. Адну са сваіх скульптур выканаў я так, каб кожны па-свойму мог вызначыць, што на ёй бачыць. Атрымаў я першую ўзнагароду за скульптуру «Дваліца», на якую таксама можна глядзець па-рознаму, — сказаў Юры Івацік.

Раўнапраўную першую ўзнагароду атрымала таксама Анна Світальская-Свіць за разьбу «Згодна, нязгоднае». Звярнула яна ўвагу на добрую атмасферу і плённую працу ў час пленэру, калі таксама адбываецца абмен вопытам. Веслаў Бэднаж з Любліна выканаў скульптуру «Куфаль з зубром», за якую атрымаў вылучэнне. Станіслаў Жывалеўскі з Гайнаўкі выканаў працу «Ecce homo». Пасля афіцыйнага адкрыцця пленэрнай выставы была магчымасць распытаць мастакоў пра іх скульптуры. Некаторыя гайнаўяне фатаграфаваліся на фоне экспанаваных работ.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# «Карта» прасторавых адносін

**Прасторавыя ўзаемадзеянні паміж людзьмі, буйнымі драпежнікамі і раслiннаеднымі жывёламі вельмі складаныя і ўплываюць на размеркаванне раслін на дадзенай тэрыторыі. Гэтыя працэсы на прыкладзе Белавежскай пушчы былі апісаны навукоўцамі з Інстытута даследаванняў млекакормячых Польскай акадэміі навук.**

Публікацыя на гэтую тэму з'явілася ў часопісе „e-LIFE". Яго аўтары — навукоўцы з Інстытута даследаванняў млекакормячых ПАН у Белавежы.







У сваіх даследаваннях яны выкарыстоўвалі запісы з фота-пастак. «Нас цікавіла падрабязная інфармацыя пра выкарыстанне прасторы буйнымі капытнымі — зубрамі, ласямі, аленямі, казулямі і дзікамі, а таксама драпежнікамі — ваўкамі і рысямі, — паведаміў галоўны аўтар публікацыі Якуб Бубніцкі. — Затым мы аб'ядналі гэтую інфармацыю з данымі з некалькіх іншых крыніц (спадарожнікавыя альбо палявыя даныя), каб вызначыць, што вырашае аб распаўсюджанні некалькіх даследаваных відаў жывёл у ландшафце Белавежскай пушчы».

Даследчыкі хацелі вызначыць, якія фактары, такія як драпежніцтва, прысутнасць людзей, наяўнасць пэўных рэсурсаў альбо характарыстыкі ландшафту, з'яўляюцца найбольш важнымі для размеркавання кожнага віду траваедных у ландшафце. Яны таксама праверылі больш аддаленыя наступствы гэтых залежнасцей — гэта значыць, як гэта пераўтвараецца ў аднаўленне лесу. Гэта поўная гісторыя пра тое, як працуе ўся лясная экасістэма Белавежскага першабытнага лесу, уключаючы ўплыў чалавека.

Як высветлілася, хаця на выкарыстанне прасторы зубрамі, ласямі, сарнамі і дзікамі ўплываюць розныя фактары — звычайна толькі адзін з іх з'яўляецца найбольш вырашальным.

Самае галоўнае для дзікоў — наяўнасць «сталовак» — месцаў, дзе яны могуць карміцца. Такім чынам, тры канкрэтныя фактары вырашаюць пытанне распаўсюджвання гэтага віду на тэрыторыі: склад лесу, яго кампактнасць і шматлікасць. «Дзік аддае перавагу месцам пражывання ў шыракалістых лясах і грабіне; часцей за ўсё яго можна сустрэць у багатых ліставых лясах — тых, у якіх шмат ежы», — патлумачыў адзін з аўтараў аналізу доктар Марцін Хурскі.

Наяўнасць шыракалістага лесу таксама з'яўляецца надзвычай важным фактарам для прысутнасці еўрапейскага зубра. Верагоднасць яго выступлення дадаткова павялічваецца за кошт наяўнасці лугоў і прасек сярод лесу ў ваколіцах паселішч людзей.

Лось — адзіны від, для якога важны рэльеф тэрыторыі. «Лось аддае перавагу далінам рэк, ручаям, забалочаным месцам, поўным вербаў, а таксама нізкаросламу дрэвастою, што на практыцы азначае кусты, а не дрэвы», — адзначае доктар Хурскі.

Распаўсюджанасць сарнаў у першую чаргу вызначаецца адкрытасцю ландшафту і кампактнасцю дрэвастою. Спосаб выкарыстання аленем прасторы — гэта, у сваю чаргу, прамая рэакцыя на прысутнасць ваўка. Наяўнасць аленяў менш за ўсё верагодная ў раёнах, якія найбольш інтэнсіўна выкарыстоўваюцца ваўкамі.

Алень — адзіны від, які так моцна «ўзаемадзейнічае» з ваўком у прасторы. «Ваўкі не вельмі ўплываюць на распаўсюджванне іншых капытных», — адзначыў д-р Дрыс Куйпер.

Акрамя зуброў, якіх падкормліваюць зімой, людзі не аказваюць істотнага прамога ўплыву на прысутнасць іншых капытных у ландшафце Белавежскай пушчы. І ўсё ж аказваюць на іх ускосны ўплыў, напрыклад, на аленяў, дзякуючы ўздзеянню на ваўкоў. Іншым прыкладам такога складанага ўзаемадзеяння ў прасторы з'яўляюцца лані, якія выбіраюць абшары, далёкія ад тых, якія найбольш выкарыстоўваюцца ваўкамі, як і месцаў з найменшай актыўнасцю чалавека. Яны аддаюць перавагу запаведным зонам — Белавежскаму нацыянальнаму парку і іншым запаведнікам.

Навукоўцы прааналізавалі таксама фактары, якія вызначаюць распаўсюджванне драпежнікаў. У выпадку з ваўкамі станоўчую ролю адыграла наяўнасць запаведнікаў (у дадзеным выпадку — галоўным чынам строгага заказніка Белавежскага нацыянальнага парку) і вялікая адлегласць да населеных пунктаў. З іншага боку, пазначаныя турыстычныя кропкі ў лесе альбо адлегласць да пешаходных сцежак падаюцца менш значнымі. «І ўсё ж людзі ўплываюць на распаўсюджанне ваўка ў ландшафце Белавежскай пушчы. Воўк, па меншай меры, тут відавочна пазбягае з'яўлення ў наваколлі людскіх паселішчаў», — лічыць Марцін Хурскі.

«Аднак гэта не азначае, што мы не можамназіраць ваўка ў лясных вёсках і на навакольных палянах. І ваўкі, і іх здабыча сустракаюцца і выкарыстоўваюць увесь ландшафт Белавежскай пушчы. Аднак у некаторых месцах яны сустракаюцца часцей, чым у іншых. Мы прааналізавалі гэтую зменлівасць, якая ў далейшым прыводзіць да прасторавай разнастайнасці відавога складу ўсяго комплексу буйных траваедных жывёл», — дадае Якуб Бубніцкі.

Узаемадзеянне людзей, драпежнікаў і траваедных жывёл мае пэўныя наступствы і для раслін. Што гэта азначае на практыцы? «Змены ў структуры капытных адлюстроўваюцца на аднаўленні дрэў», — адзначае Дрыс Куйпер. У выніку віды дрэў, якія не турбуе прысутнасць траваедных жывёл (напрыклад, грабы), прысутнічаюць і квітнеюць нават у тых частках лесу, дзе прысутнічаюць буйныя траваедныя. Між тым клён, які адчувае падгрызванне, расце толькі ў тых частках лесу, дзе буйныя траваедныя жывёлы з'яўляюцца радзей.

Такія веды могуць быць важныя з пункту гледжання аховы відаў альбо, у больш шырокім сэнсе, кіравання лясамі. «Можа аказацца, што з-за інтэнсіўных высечак у нейкай частцы лесу воўк адтуль выйдзе. Потым з'явяцца алені і паабгрызаюць дрэвы, пасаджаныя лесаводамі. Каб іх абараніць — магчыма, спатрэбіцца агароджа. Але калі гэта каштоўныя часткі лесу, якія маюць важнае значэнне для аленя і дзіка? Гэта толькі здагадкі, але чым больш ведаў пра ўзаемаадносіны — тым лепш мы будзем абараняць не толькі віды, але і працэсы, адносіны паміж відамі жывёл, якія часам маюць вырашальнае значэнне для абнаўлення пэўных парод дрэў або падтрымання біяразнастайнасці», — кажа доктар Хурскі.

Буйныя млекакормячыя з Белавежскай пушчы вывучаліся даўно. Толькі цяпер навукоўцы ўлавілі ўсе свае адносіны ў адным даследаванні — усё ў адным часе і прасторы. Да гэтага часу вядомыя адносіны і ўзаемадзеянні размешчаны ў шматслаёвых «картах», якія перакрываюць і дапаўняюць адна адну. «Гэта поўная гісторыя пра тое, як працуе ўся лясная экасістэма Белавежскай першабытнай пушчы, уключаючы ўплыў чалавека», — падкрэслівае Дрыс Куйпер.

«Мы паказваем, што прасторавыя ўзаемадзеянні паміж людзьмі, буйнымі драпежнікамі і раслінаеднымі жывёламі носяць 'каскадны' характар. Яны аказваюць складаны, але прадказальны ўплыў на прасторавае размеркаванне і відавы склад ніжэйшых трафічных узроўняў, у канчатковым выніку таксама ўплываючы на рэгенерацыю дрэў у Белавежскім першабытным лесе», — заключаюць навукоўцы. Іх высновы датычацца не толькі Белавежскай пушчы, але і іншых лясных комплексаў нашай кліматычнай зоны.

**(Лук)**

## З Бельска-Падляшскага

У жніўні Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку наладзіла ў бельскім амфітэатры беларускі народны фэст. Сярод калектываў, якія выступалі, зацікавіў мяне калектыў з Сухавольцаў пад назвай «Сябры». Я пазнаніла да іх і вось што даведалася: калектыў складаюць Яраслаў Негярэвіч — спеў, Марцін Амбражэвіч — гітара і Марцін Паплаўскі — клавішныя інструменты. «Сябры» заснаваліся ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя, пасля быў перапынак у іх творчасці і вось ад студзеня г.г. пачалі зноў дзейнічаць. У пачатку сваёй дзейнасці выдалі дзве касеты, тэлеролік, а цяпер рыхтуюць кружэлку, якая выйдзе ў красавіку 2021 года. У сваім рэпертуары стараюцца выконваць штосьці новае. Выканаўцы маюць музычную падрыхтоўку, добра прэзентуюцца на сцэне і сваім выступленнем зацікавілі прысутных на фэсце жыхароў горада. Пакуль што калектыў выступае ў сваім асяроддзі ў Кляшчэлях, Сямятычах, але думаю, што гэты круг пашырыцца. «Сябрам» жадаю поспеху!

* * *

Пра клопаты з зарослымі равамі ведаюць усе ўладальнікі зямлі, на якой такія равы знаходзяцца. Хмызнякі ды вольхі вельмі хутка растуць таму, што маюць доступ да вады, але іх высечы, гэта ўжо не так лёгка. З інфармацыі бельскай суполкі «Бяла» вынікае тое, што за ачыстку ад мулу яна адказвае, а за высяканне кустоўя не зусім. Гэты абавязак мае Павятовае староства ў Бельску-Падляшскім, якое на аснове прынятага статута перакідвае яго на гаспадароў. Не ўсе ж яны ў сілах змагацца з карчамі, а наняць людзей да высечкі гэта вельмі вялікі выдатак. Час змяніўся, бо я памятаю здаўна, што равы чысцілі адпаведныя людзі з адпаведных фірмаў. Гаспадары плацяць штогод узносы для Воднай суполкі, але ці ўсе патрабуюць такое паслугі? Найлепш засланіцца куском паперы, замест здабыць фінансы. І так людскія грошы плывуць, а вада ў равах не вельмі хоча.

**Жэня МАРТЫНЮК**

## Крадуць лавачкі з могілак

Зараз на могілках у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўжо не ставяць драўляных крыжоў. Такі знак часу. Прывозяць і ставяць побач магіл драўляныя лавачкі. Вядома, каб было дзе прысесці перш-наперш старэйшым і прызадумацца. Раней была гэта ўсяго дошка на двух стоўбіках, прыбітая да іх цвікамі, ды іх найбольш. Цяпер ставяць шыкарныя, прыгожа памаляваныя драўляныя лавачкі з жалезнай канструкцыяй. Яны на выгляд паркавых лавачак, са спінкамі, каб сесці на іх ды яшчэ абаперціся як на фатэлі. І калі яны пастаўлены ўсяго на плітках, іх зараз крадуць і вывозяць з могілак. Хто б падумаў пра такое.

Пра крадзеж лавачак паведамілі, між іншым, мне новаляўкоўцы і не толькі яны. Некаторыя навейшыя лавачкі мелі забетанаваныя ножкі. Зладзеі сталі іх вырываць з зямлі ды пакінулі. Мабыць, былі зацяжкія на вынас і не пад сілу. Пры некаторых магілах былі пасаджаны прыгожыя дэкаратыўныя дрэўцы, то іх грабежнікі выкапалі і забралі. У нас ніхто не пільнуе могілак. Дагэтуль, бывала, кралі, а як жа, часам толькі прыгожыя вазоны з хрызантэмамі. Гэта вялікія любіцелі кветак (?) або тыя, хто прадасць новаму пакупніку. А тут на табе зараз крадуць і то з могілак новыя лавачкі! Паставяць іх на сваіх дачных участках? **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі



Фота Адама Паўлоўскага

# Сусветная прыгожасць «Купалінкі»!

Звычайны беларус не ведае афіцыйнага гімна краіны, але ўсе ведаюць «Купалінку». Гэтую песню спалучаюць з народным святам кахання Купаллем, калі вясна пераходзіць у лета. Песня пра дарастаючых дзяўчат, якія за момант станyць жанчынамі. Паколькі ў песні магічны пераказ, кожны разумее яе па-свойму і бярэ яе да свайго сэрца. Чароўнасць песні і ў мелодыі, якая належыць беларускаму кампазітару Уладзіміру Тэраўскаму. Песня першапачаткова прагучала як куплет да тэатральнай п'есы Міхася Чарота «На Купалле», прэм'ера якой адбылася ў 1921 годзе. Цягам апошняга стагоддзя, яна падбівала сэрцы беларусаў, ды не толькі...

«Купалінку» расславілі такія гурты як «Песняры» ці «Сябры». Яе выконвалі замежныя зоркі як рок-гурт «Deep Purple». Песня прагучала і ў галівудскай прадукцыі «Выклік» — у гэты раз яе выканалі акцёры, якія ігралі ролі лясных партызан з яўрэйскага атрада братоў Бельскіх.

Пасля 9 жніўня 2020 года гэтая песня ўспыхнула на штандарах Рэвалюцыі Годнасці, якую ў свеце асацыююць з дзяўчынай-прыгажуняй. Краса і адвага беларусак — матыў сусветных медыя і вядомых журналаў. Песню спяваюць на вуліцах гарадоў і мястэчак, ва ўніверсітэтах і школах.

Нядаўна, 18 верасня, «Купалінку» развучылі ў IV „a” класе Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку ды паказалі яе на фейсбук-старонцы школы. Песня ў выкананні нашых сяброў адразу заваявала прызнанне ва ўсёй Беларусі. Людзі рабілі рэпост старонкі і захапляліся маладымі спевакамі.

Падумаеце, што зачароўвае нас у «Купалінцы»? Чаму ў гэтай, нібыта спакойнай песні, можна выказаць больш пачуццяў і мараў як у бадзёрым, дынамічным творы? Ці гэта метафара, люстра душы беларуса? Яна нібыта лагодная і спакойная, аднак жывая, кіпучая ад пачуццяў і мараў. Ці можа так прамаўляе мелодыя, якую з першага разу можам заспяваць на два, або і больш галасоў..?

Апошняя здагадка для тых, хто яшчэ не развучыў і не заспяваў «Купалінкі»!

**Зорка**

# Ідзе каляровы кастрычнік

Назва месяца паходзіць ад слова «кастрыца». У гэты час нашы продкі церлі ды трапалі лён, з якога адпадала шмат кастрыцы. З надыходам кастрычніка дні становяцца карацейшымі і хададнейшымі, працягваецца лістапад. Кожны дзень мы глядзім у неба, па якім адлятаюць у вырай шпакі, гракі, дразды. А ў пушных звяркоў гусцее і мацуецца поўсць пад зімку. У гэты час грыбнікі ідуць за зялёнкамі, апенькамі і радаўкамі. Самы важны дзень месяца выпадае 14 кастрычніка, на Пакровы. Пра свята заяўляе народная мудрасць:

— *Прыйшлі Пакровы, пытаюць: ці да зімы гатовы?*

На Пакровы, у Свята Божай Маці, за ўсходняй мяжой адзначаюць Дзень маці! Тады, нягледзячы на надвор'е, заўсёды ясны і гарачы ад добрых пачуццяў дзень!

*З-ка*



Фота Ганны Кандрацюк

# Перцы

Перцы колерамі разгарэліся,
скуркай глянцавай зіркаюць між лістоў.
Шчыра спелі, так стараліся – даспелі,
кожны ў кошычак улезці ўжо гатоў.
Гэты, мабыць, яшчэ недаспелы?
Ён – зялёны! Без румяных шчок?
А той на галінцы – счырванелы.
У таго – жоўты быццам у сонца бок.
Там – стручкі як той агонь палаюць,
пакаштуеш – у язык пячэ пажар!
Бо стручковыя папрыкі гэтак маюць –
укусіш дык перакосіцца твой твар.
Вось балгарскі перац, ці чырвоны,
ці зялёны (спелы ўсё ж, як ні глядзі),
саладзіцца ў сонцы на загонах,
яшчэ хоча ў бокі падрасці...
Восень. Плён у слоікі збіраем,
квасім, солім, сушым, марынуем,
на паліцы ў скляпах паадкладаем,
і зімой запасаў не шкадуем.

**Міра ЛУКША**

# УВАГА КОНКУРС! № 39-20

Маленькі шарык
пад лаўкай шарыць.
Скочыў кот,
хап шарык у рот!
М..

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 4 кастрычніка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 35: грыбы. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйграла Мілена Федарук. Віншуем!

**ЛАКОМАЯ МІНКА**

Шэрая мышка сушку ела,
пакідаць на зіму не хацела.
З чаго, мышка, гэтая сушка?
Можа, са сліўкі, а можа з грушкі?
Такая смачная сушка ў мышкі!
Мо бакалею ўкінеш у пышку?
Спачатку, мышка, замесім цеста,
і падрасце, і ўкінем рэшту,
салодкую грушку, зерне, разынкі...
Вось будзе свята ў мышкі Мінкі!
А сваю сушку трымае Мінка
(кажуць, што мышкі — дык гаспадынькі),
і няма мовы, няма адказу:
хоча пагрызці сушку адразу!
Новыя сушкі будуць на зімку!
Гэта ж смакоцце схрабушча Мінка!
Потым падумае, ужо пад восень:
у норку знясе арэшкі, калоссе,
сыру скрылёчак, скарынкі хлеба...
Колькі ж запасаў на зімку трэба?

**Міра ЛУКША**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**РАБІНА** — вядомая таксама як ораб, паводле ўяўленняў нашых продкаў з'явілася на зямлі з крывавых слёз Евы, якую Бог разам з Адамам выгнаў з раю. Дрэва шанавалі і адначасова баяліся яго, лічылі яго помслівым і небяспечным. Рабіны не садзілі побач з хатай і не ўносілі яе ў жыллё, каб дрэва не прынесла з сабой слёз. Раілі не абрываць з рабіны кветак і ягад ды не дазвалялі трымаць іх там, дзе жывуць людзі.

З рабінай — меркавалі старажытныя беларусы — трэба абыходзіцца далікатна і асцярожна. У ніякім разе не дазвалялі сячы дрэва, за гэта чалавек мог паплаціць жыццём або цяжка захварэць. Рабінай не палілі ў печы, бо тады ў хаце з'яўляцца змеі і гадзюкі.

Існавала легенда, што рабіну, якая спачатку была добрым дрэвам са смачнымі ягадамі, сапсаваў чорт, каб нашкодзіць людзям. У беларускім фальклоры арабіна часта ўвасабляе жанчыну, а яе галінкі — дзетак. У іх з-за чараў і праклёнаў дрэнных людзей няма шчасця, яны ўсё жыццё плачуць.

Аднак у народнай медыцыне дрэва вельмі цанілі і скарыстоўвалі ў лекаванні. На яе сімвалічна пераносілі хваробы і боль зубоў. Рабіну лічылі таксама ахоўным дрэвам, яе галінкі затыкалі ў хлеў, калі ў гаспадарцы не вяліся свінні. На Падляшшы рабінай аздаблялі сцябло збожжа — перапёлку (пэрэпэліцу) і дажынкавы вянок. Гэта мела паспрыяць ураджаю жыта.

Цікавыя павер'і пра гаданне надвор'я і ўраджай. Добрае цвіценне рабіны прадказвала добры ўраджай ільну. Калі на рабіне доўга не спелі ягады, то чакалі дрэннага лета і халоднай восені. Шмат ягад абяцала мокрую восень, а надта вялікі ўраджай рабіны — цяжкі год і нават эпідэмію або вайну.

Убачыць ва сне рабінавыя ягады, якія нехта еў, лічылася дрэнным знакам. Але ўжо на яве гэта выглядала інакш. У наш час з перамарожаных ягад гатуюць смачнае сочыва і робяць на ягадах настойкі. Рабіна — корм для зімовых птушак. А сам колер даспелых гронак натхняе дзяцей і падлеткаў да нізання караляў і бранзалетаў.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

## Польска-беларуская крыжаванка № 39-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 35-20:**

Густ, мара, мір, вечар, за, верас, лоб, раса, Алі, душ, пан, грамата. Як, ода, верш, сфера, час, пасада, мір, лапа, волат, арабіна.

Узнагароду, **беларускія літаркі на камп'ютарную клавіятуру,** выйграла **Лена Карпінская**. Віншуем!



# Чалавечыя лёсы

**(ч. 11)**

Больш пахвальна пішу пра сваіх землякоў, бо і яны варты гэтага. Аднак нельга прамінуць іх адмоўных паводзін, хаця не ва ўсіх. Трэба сказаць пра іх адносіны, любоў, пашану да яўрэяў, якіх многа было ў Орлі, Бельску-Падляшскім і ва ўсіх гарадах Падляшша, як і далей. Тут ёсць розныя меркаванні наконт гэтага не такога лёгкага працэсу. І адзін прыклад. У міжваенныя гады недзе ў 30-тыя наш слаўны Арцём Чыквін задумаў адкрыць нейкі бізнес і блізка Бахматоў на левым баку дарогі-гасцінца званага Камянецкім вынайшаў выдатную гліну (гэта колішняя мая калёнія, дзе далей на ўзгорку стаяў і цяпер стаіць сігнал). Аказалася яна прыдатнай для вырабу цэглы. Зрабіў тады цагельню. Сярод рабочых меў ён Грышку, званага Унучкам; не ведаю, ці гэта было яго прозвішча, ці мянушка. Ён і яго брат Іван паходзілі з роду не адзін раз успомненага Сідара, яны былі яму блізкімі сваякамі. Па гэтым гасцінцы яўрэі, як народ гандлёвы і прадбачлівы, вазілі фурманкамі свой тавар, часам вельмі бедны, аж у сам горад Камянец. І аднойчы адзін бедны яўрэй і то ўжо старэйшы, дрэмлючы вёз свой тавар, і калі зраўняўся з цагельняй, дык Грышка, мяшаючы лапатай гліну з пяском у вадзе, нечакана сваю мокрую грацьку лінуў з размаху ў твар дрэмлючага яўрэя. Той, вядома быў ашарашаны такім пастулкам дзікасці і дурнаты нашага чалавека, але нічога не сказаў, толькі выцер твар і далей паехаў. А рэшта рабочых рагаталі з гэтага здарэння, а павінны плакаць. Пасля гэты яўрэй у Орлі спаткаўся з Грышкам, пазнаў яго ды сказаў некалькі слоў: «А, то ты, Сідараў унучак... Ёсць руская пагаворка, якая ясна кажа: Бог всё видит, да не скажет. Чалавек за свае дрэнныя паступкі калісьці адкажа, як не зараз, дык у вечнасці». І наш Грышка (ён пераважна гаварыў па-руску) выбраўся ў Чаромху і там нават меў свой ларок (як сённяшні кіёск), у якім прадаваў нешта. Пасля вайны хваліўся перад маім бацькам: «Володя, чтоб не война, я был бы миллионером». І дома бацька казаў: «З яго быў бы такі мільянер, як і я, а хваліцца гэта Грышкава натура». І зараз пасля вайны Грышка паступіў у чыгуначную міліцыю і тады акурат савецкія ўлады масава вярталіся дамоў. І аднойчы ў час службы Грышка паспрачаўся з адным падвыпіўшым франтавым савецкім байцом і той з аўтамата пальнуў у яго і цяжка параніў нагу. І да самай смерці наш герой моцна кульгаў. Мо гэта была «заслуга» за яго грацьку ў лапаце, якой «пачаставаў» калісьці яўрэя? А так, агульна беручы, гэта быў нядрэнны чалавек.

А яго брат Іван ажаніўся з мясцовай прыгожай дзяўчынай Ганнай Герасімюк, сястрой Ольгі, якую звалі Данылянкай, бо бацька зваўся Даніла, якога род паходзіў з Бахматоў. І абодва браты Грышка і Іван мелі свайго блізкага сваяка (не ведаю, кім ім прыходзіўся, дзедам, ці мо дзядзькам). Але гэта быў важны афіцэр белай арміі (не памятаю яго прозвішча і імя), які ўспеў уцячы ад бальшавікоў, а з такімі польскія ўлады надта лічыліся. І ён аформіў для свайго сваяка (мо і ўнучка?) Івана пасаду на службе ў польскай арміі, як кадравага салдата і падафіцэра. І ён служыў. А гэта была рэдкасць. І шчасце, што яго не кранула сталінская жалезная рука ў час рэпрэсій у 1939-1946 гадах, і не трапіў у Катынь або іншыя савецкія райскія дзверы. Пасля вайны Іван з Ганнай выехалі ў Савецкі Саюз. І прыязджалі ў госці да Ольгі Лемеш (Данылянкі). Я іх бачыў і трохі гаварыў з імі. Гэта былі добрыя і сімпатычныя людзі. Так, гэта вялікая рэдкасць, каб наш чалавек беларус мог у міжваенны час служыць у кадравай польскай арміі і гэта амаль цуд.

Селянін з вёскі Вярсток прозвішчам Крот меў двух сыноў і ён іх вывучаў грамаце. На той час быў багаты, бо меў сваю манапольную краму і меў з яе нейкі даход. Але галоўнае: перад гэтым ён выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі на работу і працаваў на нейкай фабрыцы і ў ходзе працы здарылася няшчасце: яму адарвала руку і ён атрымаў немалую кампенсацыю за гэты выпадак. Гэта не сёння ці пры «камуне», калі я леткам 1983 года страціў два пальцы правай рукі, дык мне заплацілі кампенсацыю грашакамі, аж сорамна прызнавацца. Ясна, Амерыка багатая і мо лепш там лічацца з рабочым. А мы ў параўнанні з імі былі і ёсць галеча. Такая праўда, на жаль... І вось згаданы Крот гэтыя грошы прызначыў на далейшую вучобу сваіх сыноў, і адзін з іх вывучыўся нават на лётчыка. Добра хлопец вучыўся і ў часе канчатковых экзаменаў бліскуча адказваў на пытанні з практыкі, як і з тэорыі на паперы. Аднак экзаменацыйная камісія так «пастаралася», што новаспечаны лётчык экзаменаў «не здаў». Баяліся, каб беларус-лётчык таксама не ўцёк са сваёй машынай у СССР. Аднак у час вайны наш герой трапіў у Англію і там яго ацанілі належным чынам. Там ён лётаў на сваёй машыне, намнога лепшай ад польскай, і вёў баі з нямецкімі слаўнымі лётчыкамі, якімі сёння так хваліцца наша прапаганда, што, маўляў, немцы перавышалі ў паветры савецкіх лётчыкаў. Другі сын Крата вывучыўся на лекара і таксама жыў на Захадзе, прыязджаў некалькі разоў да свайго бацькі (бо маці даўно памерла), а нават і пасля, па яго смерці. Дык і я сустракаўся з імі і гаварыў, а калі ён даведаўся, што я карэспандэнт «Нівы» і паказаў газету (бо быў я яшчэ і лістаношам), дык ён уцешыўся і пачаў гутарыць са мною на чыстай літаратурнай беларускай мове. І ён паказаў свой гонар і любоў да роднага слова і гэта ясна сведчыла, што ён — сапраўдны вучоны чалавек і патрыёт. І на шчасце такіх людзей мы маем не толькі ў сваёй краіне, на Падляшшы і то далей, а маем іх і то немалую жменьку, а цэлы батальён і за мяжой. Гэта пішу і то ўсё ляжыць на маім сэрцы. Цешуся, што наша гаворка мае свой сэнс, гармонію, каларыт і мы нічуць не горшыя ад іншых — гэта яшчэ раз паўтараю. А таксама і беларуская літаратурная мова. Я не раз паўтараю гэта: ей няма роўных. Я кожнай мовай даражу, як кожным чалавекам, нават той, з якой нічога не разумею. Аднак свая родная мова — мацярынская і бацькоўская, і таму мы павінны жыць як родная сям'я, як той цесна звязаны вянок і мятла, якую нельга пераламаць, хаця яна будзе гнуцца ў час трывог і цёмнай навальнічнай хмары. Але яна зноў з гонарам і перамогай выпрастаецца.

Яшчэ раз успамінаю пра Івана Хілімanюка, сына Рыгора, які паўгода прасядзеў у санацыйнай турме. Дык той чалавек у школу цалкам не хадзіў і жыў бедна. Але ён быў самавукам і скора навучыўся чытаць і пісаць на рускай, польскай мовах (напэўна яму не была чужая і беларуская) і гэта быў вельмі гарачы кнігалюб. Меў такую прывычку: прачытаную кнігу на вечарках ён вельмі дакладна, дасціпна, зразумела і з талентам пераказваў слухаючым, а гэта быў майстар слова. І людзі з захапленнем слухалі яго расказы з прачытаных кніг. Мала хто з граматных у той час, а нават і сёння мог зраўняцца з ім. Нават пасля вайны, калі я быў яшчэ малы, а пасля пры кавалерстве, на вечарках у Васіля Куліка мы ўсе слухалі яго расказы з прачытаных ім кніг. Тады яшчэ тэлебачання не было, а на сценах кожнай хаты вісела точка-радыёпрыёмнік, адкуль было чуваць адну Варшаву і яна многім ужо абрыдла. Але словы цікавай аповесці не абрыдлі. І мой бацька мог цікава расказаць прачытанае, але Іван — гэта быў проста феномен.

Ага, прыпомнім яшчэ адну дэталь гісторыі нашай вёскі нядоўга перад самым бежанствам. Хаця гэта здарылася не ў самой вёсцы, а крыху далей, пад Бахматамі. Недзе напрадвесні 1915 года там на лузе прызямліўся рускі ваенны самалёт. А вядома, якія тады былі самалёты, і той, што да нас завітаў, быў хіба маркі «Лебедь», але яны не былі высокай якасці. Найлепшыя самалёты таго часу былі французскай вытворчасці і нават нямецкія былі ад іх горшыя. Хаця Расія магла пахваліцца сваім магутным «Ільёй Мурамцом», але мала іх нарабілі. І вось, як на дзіва, а зноў няма чаму дзівавацца, людзі збегліся адусюль, а луг быў у большасці яшчэ мокры; праўду кажучы, самалёт сеў на сухім месцы, на грудку. Народ захапляўся новай паветранай тэхнікай. Відаць, пашкоджанне не было вялікае, бо лётчыкі скора яго паладзілі (было двух лётчыкаў) і селі ў сваю кабіну і адзін з іх раптам закрычаў: «Ложитесь!» І ўсе людзі як вывучанае войска, пападалі ніцма на мокрую зямельку-луг і некаторыя ў самае балота. Там у кабіне гучна зарагаталі, уключылі матор і самалёт лёгка падняўся і паплыў на ўсход у нязведаную даль далей несці сваю місію «на блага» радзімы — Расіі.

Пра гэту гісторыю людзі не забылі (калісьці ў «Ніве» я пра гэта пісаў) і таму я яе прыпомніў, што і мы па добрай камандзе зверху можам цуды рабіць, не горш ад прафесіянальнага войска. Абы толькі быў добры камандзір над намі. А ці знойдзецца такі? Час пакажа.

А мой дзядзька Мяфодзій ужо вярнуўся з цяжкай турмы ў Беластоку і, на жаль, страціў сваю прыгожую Тоньку, бо яна ўжо ўспела выйсці за іншага (а пасля вельмі шкадавала, бо не зраўняць яе мужа з маім дзядзькам, які быў найпрыгажэйшы сярод маіх усіх дзядзькоў, хаця і яны красой не грашылі). Гэта было ў 1938 годзе і сёння не ведаю, ці дзядзька калі адведаў «сваю» Тоньку і дачушку Ніну, якая расла і гадавалася пры чужым бацьку, а ўжо мела некалькі ладных гадзікаў.

І хаця дзядзька атрымаў так званы «воўчы білет», аднак на хлеб і да хлеба мог лёгка зарабіць, бо добра вывучыўся на выдатнага цесляра. І ўсе мае дзядзькі (у тым ліку і мой бацька) былі майстрамі-цеслярамі. А Мішка меў вялікую пасеку, меўшы больш як дваццаць вулляў, і таму мёду ўсім хапала, а нават меў яго на продаж. І яны — Ванька і Мішка — на другім панадворку (дзе цяпер я жыву) пабудавалі вялікі рад хлявоў з моцных дылёў. І яны ўцалелі ў час вайны. Ужо стаяла і большая клуня. І вялікай хатай і клуняй дзядзькі карысталіся каля дзесяці гадоў, пакуль гэта не згарэла ў час вайны. А мой бацька (як я ўжо пісаў) жыў на сяле і яго панадворак быў вузкі, што ж, рызкі-цераспалосіцы панавалі надалей у нашай няхітрай сельскай гаспадарцы, але ўжо мелі рабіць калёніі. І не ўспелі. А шкада! А нашы сяляне не падалі духам і штораз лепш гаспадарылі і некаторыя багацейшыя пакуплялі манежы, малатарні, веялкі, прычапныя жалезныя бароны і іншыя сельскагаспадарчыя машыны і прылады да іх...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Новыя Вершы

# Юркі Буйнюка



**Юрка БУЙНЮК** — паэт, празаік, публіцыст «Нівы». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў вёсцы Маліннікі. У 1993 годзе дэбютаваў у «Зорцы». Друкаваўся ў газетах «Ніва», «Раніца», «Angora», а таксама ў літаратурных часопісах «Дзеяслоў», «Верасень» і «Маладосць». Аўтар цыкла сатырычных апавяданняў «Толік і Колік». Аўтар трох паэтычных зборнікаў «Субота ў Малінніках» (2005), «Самота дажджу» (2009) і «Непаўторнасць хвілін» (2015). Жыве і працуе ў Беластоку.

## Родная маці

Родная маці
Слова самае дарагое
Кожнаму дзіцяці
У маці сэрца залатое
Маці — шчырасці крыніца
Калыска шчасця
Вогнішча любві
Што ніколі не пагасне
У маці поўны стол дабра
Што вітае сына і дачку
Зяця ці нявестку
І ўнукаў чараду
У маці ўспамінаў вясна
У іх дзіцём заўжды жыву

*26.07.2020*
*Маліннікі, Леўкі, Бельск*

## Жонцы

Ты найпрыгажэйшая на свеце
Спадабалася адзінокаму паэце
Ты найбольшае шчасце нам падарыла
У трудзе дачку нарадзіла
Дарагая мая, мая міла
Будзь са мной шчаслівa.

Ты дбаеш пра сям'ю і хату
А ў кожнае сямейнае свята
Гасцей поўная хата
Ды найлепшая гаспадыня
У табе Божая сіла.

На нашым супольным небе
Хай зорка кахання ніколі не гасне
Ты маё найбольшае шчасце
Наймацней кахаю я цябе
Няхай наша дачушка расце,
У кахання прыгожай вясне.

*13.07.2020*

## Дачушцы Ленцы

Расці бацькам на пацеху
Сваім матулі і бацьку-паэту
Цешся з кожнай хвіліны
Расці прыгожай дзяўчынай
Будзь здаровай і шчаслівай
Будзь для ўсіх добрай і мілай
Хай сцеражэ цябе Божа сіла
Не забывай сваіх каранёў
Наведвай сваіх дзядоў
Яны перадалі табе любоў
Гэта тваё шчасце, твой схоў
Пражыві век жыццё
Няхай Бог будзе з табой.

*13.07.2020*
*Беласток*

## Бацькам

Вы найдаражэйшыя на свеце
Мы вашы родныя дзеці
Дзякуем вам за труд выхавання
За цяпло шчырага кахання
Хаця вам нялёгка было
За поўны стол вашага дабра
Жадаем моцнага здароўя
Спяваем вам многая лета
Каб найдаўжэй нам жылі
Каб у шчасці вам дні плылі
Каб мелі пацеху з унукаў і нас
Мы вельмі моцна кахаем вас!

*13.07.2020*
*Беласток*

## Родная вёска

Сніцца мне вёска начамі
Здаецца далёка за гарамі
Штодзень жыву ў горадзе
Маё сэрца за родным у тузе
Родная вёска, роднае сяло,
Тут маё дзяцінства прайшло
Тут родныя палі, лясы і лугі
Тут я з сябрамі гуляў
А бацькам на полі памагаў
Тут мае першыя ўспаміны
Бацькавы асцярогі, ласкі матчыны

Тут мае радасці і сумы
Успаміны мінулай вясны
Тут мае верныя сябры
Каханне першай дзяўчыны

У старой хаце жылі дзяды
Тут асталіся мае бацькі
Бацькоўская родная хата
Вітае сваіх дзяцей на свята.

Калі бацькам памагаю
Пры цяжкай працы адпачываю
Тут знаходжу душы спакой
Родная вёска я ўсё з табой.

*13.07.2020*
*Беласток*

## Поездам дадому

Нарыхтаваны цяжкі рукзак
Даўно я не ехаў
Поездам дадому
Як я люблю поезда гук
Калі калёсы аб шыны
Б'юць тук тук тук тук
У навушніках музыка своя
Родная беларуская
За акном прыгожыя віды
Палі, лясы — краявіды

*13.07.2020*
*Беласток*

## Жыццёвы крыж

Кожны ў душы ў сабе
Жыццёвы крыж нясе
Бог яму сілу дае
У духоўнай вясне
Кожны ў сабе цярпіць
З бядою трэба жыць
І Бога цярпліва маліць
Каб у жыцці лягчэй было
Каб спакойна жылось
Таму, што без Бога
Не да парога.

*15.07.2020*

## Мацярынскае сэрца

*Маме, Марыі Буйнюк — 65 гадоў*

У ім крыніца любві плыве
Колькі ж болю яно знясе
Яно чыстае як сляза
Шчырае як мамы душа
Мацярынскае сэрца
Яно сваім дзецям верна
Матуля аддасць усё
Што мае апошняе сваё
Мацярынскае сэрца
Малітвамі да Бога залятае
Маці наймацней сваіх дзяцей кахае
Ім аддасць апошняе сваё
Матуля мая са шчырай душой
Твае дзеткі заўсёды з табой
Перасылаем шчырую падзяку
У здароўі і шчасці жадаем
Дыямантавага веку
Родная маці найдаражэйшая
Свайму роднаму сыну — паэту.

*15.07.2020*

## Для сястры Крысі

Б'ешся як рыба аб лёд
Працавітая як ніхто
Вязе мяне твой самаход
З чыстаю як сляза душой
Вязеш мяне дадому
Сястра, мой найбольшы друг
Шчыра малюся за цябе
Няхай дасць табе ласкавы Бог
Тое, што маеш у думках сваіх
Не забывай пра Бацькоўскі парог
Ён такі сам твой як і мой
Крысю, хай заўсёды Бог будзе з табой,
Хай дасць табе жыцця
У шчасці і здароўі век
Так жадае табе твой брат-паэт!

*18.07.2020*
*Беласток*

## Мая матуля

Ваша дабро межаў не мае
Хто першыя песні спявае
Хто скажа з памяці вершы
Хто шчыра спачувае
Таямніц нікому не паўтарае
Матуля самая дарагая
Матуля добрая і святая
Ніхто так не кахае дзіцяці
Як наша родная маці

*17.07.2020*
*Беласток*

## У лесе

Тут душа мая адпачывае
Калі бярозу грудзьмі прытуляе
Божыя дары — ягады і грыбы
Рассыпаны на зямлі
Нашы падляшскія лясы
Родны лес дае дрэва на зіму
Пры цяжкай працы лячу душу
Бацька рады за дапамогу

*15.07.2020*
*Маліннікі*

## Вада з калодзежа

Вада сцюдзёная
Вада родная
Вада смачная
Бясспрэчная
Крыніца здароўя
Нырак ахова
П'ю з самога рання
Добрага дня спаткання

*18.07.2020*
*Беласток*

1 ☞ працяг



прысмак вялікага свята, якое зладзілі ў вёсцы святога. І хоць прыехалі сюды не апошнімі, мы былі вымушаны прыпаркаваць машыну дзвесце метраў ад цэнтра падзей. Усе абочыны былі шчыльна абстаўлены аўтамабілямі, з-за якіх вуліца напаміналя нешта падобнае на трыбу ў пушчы. Тым больш, што пры амаль кожным двары стаяў магутны дуб...

У след за патокам прыезджых мы пацягнулі да царкоўкі, што здалёк заяўляла пра сябе залатым колерам купалаў, расветленых у чыстым, ранішнім святле. Ля панадворка, што насупраць капліцы, выстойвалі апранутыя па-святочнаму жанчыны.

— Ці ёсць у вашай вёсцы Сцепанюкі? — пытаем. Менавіта так у міры называўся іх зямляк-святамучанік Георгій, кананізаваны ў 2000 годзе Рускай Праваслаўнай Царквой.

— А як жа! Мы таксама Сцепанюкі, і нашы суседзі Сцепанюкі, і тыя што за імі таксама былі Сцепанюкі...

— Ды можа вы будзеце сваякамі святога?

— Усё можа быць, — падтакваюць субяседніцы. — У нас і поле было па-суседску.

— А з якімі пачуццямі сустракаеце сённяшняе свята?

— Я то рада, што дажыла такога, — кажа 87-гадовая Ганна Сцепанюк, — можа які *празнік* у вёсцы зробяць. Як ён Георгій, то можа на Юрыя *одпуст* зробяць?

Спадарыня Ганна ходзіць з дапамогай кульбакі:

— Я нават на другі канец вёскі не зайду сваімі нагамі, а як тут будуць па-суседску правіць, то сама дабрыду на мыліцах. Сёння я рада і сумная, — дадае старажылка, — бо мой час ужо канчаецца...

У Палічнай, якая яшчэ ў канцы XX стагоддзя лічылася шматлюднай і баявітай вёскай, ідзе рэзкі працэс адмірання карэннага насельніцтва.

— Асталіся пераважна ўдовы, — кажа спадарыня Ганна. — Кожная другая хата ўжо пустая. Калі ўсе памруць і прыедуць сюды жыць іншыя людзі, то царква будзе напаміначь, што тут жылі праваслаўныя.

* * *

Капліца ў гонар святога Юрыя, калі глядзець на тэмп пабудовы, вырасла вокамгненна. Два месяцы таму, 5 ліпеня, заклалі краевугольны камень, які быў прывезены з сяла Андрэеўскае ў Туркменістане, дзе магіла святога. Пабудова здзейснілася цягам двух месяцаў, неверагодна хутка як на нашы меркі. Усё дзякуючы энергіі маладога настаяцеля Паўла Кучынскага. Ідэя набыла рэальны кшталт дзякуючы фундатарам Іаанне і Тамашу Дамброўскім і выканаўцу Віктару Раманюку. Сам акт асвячэння надоўга запамятаюць у парафіі. Найперш з-за вялікай колькасці духавенства. У адміраючую пушчанскую вёску прыехаў сам мітрапаліт Сава, архіепіскап Грыгорый, епіскапы Павел і Варсанофій ды сотня бацюшкаў. Іх прысутнасць не была выпадковай, паколькі святы з Палічнай лічыцца апекуном духавенства. Малебну і багаслужбам прыпяваў мужчынскі архірэйскі хор, які супакойваў душы і навакольны пушчанскі краявід.

— Калі б не вера нашых продкаў, дык не было б гэтага куточка на зямлі, — гаварыў мітрапаліт, — сёння ўсе разам праз малітву мы асвячаем мір і ўсё тварэнне...

Сярод сабраных пазнаю Ніну Казачук, дваюрадную пляменніцу святога. Яна завядзе нас да хаты, дзе нарадзіўся і гадаваўся святы. У пачатку панадворка вітае нас хмара матылёў, а на парозе — прыгожая гаспадынька. Драўляная хатка з канца XIX стагоддзя цудам захавалася да нашага часу.

— З гэтага месца пазяхае такі гаючы спакой, — кажа новая гаспадыня. — Мы зробім усё, каб захаваць сляды і ўспаміны пра святога Юрыя.

— Мы чакалі яшчэ ўнучкі святога з Вільні, але яна не даехала з-за каранавіруса, — дадае пані Ніна.

Унучка дала ўжо сваё ДНК, каб апазнаць косці дзеда і перавезці яго астанкі на радзіму. Святы Юры пахаваны ў брацкай магіле з іншымі, забітымі бальшавікамі за веру, свяшчэннікамі ў вёсцы Андрэеўскае ў Туркменістане.

— Я малюся да яго і ён мне дапамагае, — прызнаецца Ніна Казачук. — Я такая шчаслівая, што словамі не расказаць...

У апошнім прызнанні і я прыкмеціла цуд святога з Палічнай. Сем гадоў таму паміж гэтай жанчынай і вэрстоцкім настаяцелем усплыла нязгода з-за іконы. Сваячка пакрыўдзілася, што іканапісец не пакарыстаўся фотакарткачай святога, а толькі напісаў ікону паводле сваіх уяўленняў і ён быў не падобны на самога сябе. Былі горкія слёзы, крыўда і наракання. Ніхто не хацеў саступіць са сваёй пазіцыі. А сёння, ужо з першага слова, мая субяседніца пахваліла таго самага бацюшку. У яе словах адчуваўся шчыры дух змірэння.

❖ Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**




# http://archives.gov.by

Цяжка сказаць, магло б развівацца чалавецтва, калі б не назапашвала сваіх ведаў. А ці можна назапасіць веды, калі б, напрыклад, не было архіваў? Зразумела, што не. Менавіта архівы з'яўляюцца сховішчам карысных дакументаў, якія іншым разам толькі сваім існаваннем могуць многае распавесці пра нейкія падзеі ці працэсы, што адбываліся ў мінулым. Таму, напрыклад, не да ўсіх архіваў маюць доступ звычайныя грамадзяне, асабліва гэта тычыцца недэмакратычных краін.

Разам з тым, менавіта архіўная справа заўсёды будзе патрэбна ў кожнай краіне, якая лічыць патрэбным захоўваць і зберагаць важныя і не вельмі важныя дакументы. Беларуская краіна ў дадзеным выпадку не выключэнне. Адным са сведчанняў гэтага з'яўляецца партал „Архівы Беларусі", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://archives.gov.by**.

«Сайт „Архівы Беларусі" прадастаўляе інфармацыю, якая датычыцца архіўных дакументаў, заканадаўства ў галіне архіўнай справы і справаводства, а таксама архіўных устаноў Рэспублікі Беларусь і іх паслуг», — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. Там жа знаходзяцца выйсці да рубрык і анонсы навінных паведамленняў.

Уласна рубрыка „Навіны" падзелена на тры падрубрыкі. Гэта — „Навіны галіны", „Навіны сайта" і „Аб'явы". Варта адзначыць, што хоць дадзены сайт не з'яўляецца інфармацыйным парталам, інфармацыя ў дадзеных падрубрыках абнаўляецца даволі часта. Прынамсі, усе апошнія паведамленні датаваны вераснем.

Пра тое, як і кім кіруецца беларуская архіўная справа, можна даведацца ў рубрыцы пад дзіўнай назвай „Раздзелы". Там ходзіць пра структуры ўлады, датычныя дадзенай галіны. На самым версе ўсёй гэтай іерархіі — Міністэрства юстыцыі, якое кіруе Дэпартаментам па архівах і справаводстве, а ён у сваю чаргу ажыццяўляе спецыяльныя (выканаўчыя, кантрольныя, рэгулюючыя і іншыя) функцыі ў беларускай архіўнай справе. Спраўджваць, ці ў архівах усё вядзецца як мае быць, мусіць Дзяржаўная інспекцыя архіваў і справаводства. Яна ажыццяўляе кантроль за выкананнем заканадаўства ў сферы архіўнай справы і справаводства; выяўляе прычыны, якія спараджаюць парушэнні патрабаванняў заканадаўства ў архіўнай справе і садзейнічае іх ліквідацыі; папярэджвае парушэнні заканадаўства.

Аб тым, дзе спасцігнуць архіўную навуку, напісана ў падрубрыцы „Адукацыя". Пачаць авалодваць архіўнай мудрасцю можна, калі хлопцу ці дзяўчыне каля 15-16 гадоў. Выпускнік адпаведных ліцэяў і каледжаў будзе мець сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Для тых, каму цікава даведацца, як паўставала і развівалася беларуская архіўная справа, варта зайсці ў аднайменную падрубрыку. Там ходзіць пра гісторыю архіваў на беларускіх землях. Паводле размешчанай там інфармацыі, першым цэнтралізаваным дзяржаўным архівам на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь быў Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актавых кніг, які пачаў дзейнічаць у 1863 годзе. Ён быў створаны для захоўвання актавых кніг судовых устаноў Першай Рэчы Паспалітай за перыяд з XVI да канца XVIII стагоддзя на тэрыторыі, якая знаходзілася ў межах Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў Расійскай імперыі. 1 студзеня 1903 года Віцебскі архіў быў ліквідаваны, а ўсе дакументы перададзены ў Віленскі архіў.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара



# 95 гадоў з дня нараджэння Алеся ТРАЯНОЎСКАГА

Беларускі пісьменнік, перакладчык, крытык Алесь Траяноўскі нарадзіўся 22 верасня 1925 года ва ўрочышчы Уздымач, што каля вёскі Буда–Грэская (Слуцкі раён). Паходзіў з сям'і лесніка Пятра Іванавіча Траяноўскага і нарадзіўся фактычна ў леснічоўцы. Да надыходу вайны паспеў скончыць Буда-Грэскую пачатковую і Шышчыцкую сямігадовую школы і тры месяцы папрацаваць сакратаром следчага аддзела пракуратуры Мінскай вобласці.

У час Другой сусветнай вайны з верасня 1942 па ліпень 1944 года Траяноўскі партызаніў у брыгадзе імя Чапаева. Брыгада дзейла на акупаванай тэрыторыі Грэскага, Капыльскага, Нясвіжскага, Клецкага раёнаў. З ліпеня 1944 года Траяноўскі ваяваў на III Беларускім і III Украінскім франтах, быў цяжка паранены. Меў баявыя ўзнагароды.

Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе працаваў на розных пасадах у Мінску: у Мінскім абласным Доме народнай творчасці, абласным і рэспубліканскім камітэтах Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту, у іншых установах. У 1959 годзе скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. У 1955-1962 гадах Траяноўскі працаваў літсупрацоўнікам шматтыражнай газеты „Западная трасса" (Беларускае ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі). У 1962-1982 гадах — літсупрацоўнік, загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты „Звязда", у 1983-1986 гадах — намеснік галоўнага рэдактара часопіса „Мастацтва Беларусі".

Дэбютаваў артыкуламі на літаратуразнаўчыя тэмы ў 1957 годзе ў перыядычным друку. З 1960 года працаваў у галіне мастацкага перакладу. У 1960 годзе ў часопісе „Бярозка" апублікаваны першыя яго пераклады чэшскіх народных казак „Вугальшчык і мядзведзь", „Вучоны кум". Асабліву цікавасць у А. Траяноўскага выклікалі літаратуры лужыцкіх сербаў і кашубаў. Перакладаў з верхнялужыцкай, ніжнялужыцкай, кашубскай, польскай і ўкраінскай моў. Адзін з укладальнікаў і перакладчыкаў, аўтар прадмовы і каментарыяў да анталогіі паэзіі лужыцкіх сербаў „Там, дзе Шпрэвя шуміць" (1969). У яго перакладах на беларускую мову выйшлі анталогія кашубскай паэзіі „За даляглядам край Сталемаў" (1980), аповесць Ю. Брэзана „Чорны млын" (1984). Пераклаў шэраг твораў І. Франка, П. Тычыны, Я. Барта-Цішынскага, Ю. Брэзана, К. Лоранца, А. Лаймінг і іншых. За пераклады кашубскай паэзіі ў 1976 годзе стаў лаўрэатам прэміі Сталема. На думку Віктара Карамазава, А. Траяноўскі не проста перакладаў, а „даследаваў душу, духоўныя і маральныя крыніцы народаў, лёс якіх быў блізкі лёсу беларусаў". Выкарыстоўваў псеўданімы А. Паломскі, Юрка Пасынак, А. Пятровіч, Алесь Пятровіч.

З 1990 года Траяноўскі — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Алесь Жук пісаў пра яго так: „Не адно пакаленне беларускіх паэтаў і празаікаў з удзячнасцю ўспамінае Алеся Пятровіча, з благаслаўлення якога іхнія творы бачылі свет на старонках старэйшай і шаноўнейшай беларускай газеты „Звязда". Улюбёны ў літаратуру, мастацтва, знаток беларускай гісторыі, Алесь Пятровіч шчыра дзяліўся ведамі з аўтарамі намнога маладзейшымі, ім перадаваў сваё захапленне беларускасцю, Беларуссю. Знаёмства і сяброўства з Алесем Траяноўскім стала вялікай школай адкрыцця саміх сябе, усведамленнем саміх сябе, далучэннем да Бацькаўшчыны для многіх тады пачынаючых пісьменнікаў".

Памёр Алесь Траяноўскі 18 сакавіка 2005 года ў плябаніі Чырвонага касцёла ў Мінску. Пахаваны на сталічных Кальварыйскіх могілках.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

На здымку: Алесь Траяноўскі (злева) і пісьменнік Алесь Жук

*Гутаркі ў дарозе*

# Мы жывем на гэтай клетцы...

— Ах, якія тут прыгожыя кветкі! Пад кожным пад'ездам, так прыгожа адмаляваным, агародчык, — кажу Эве Казарэз-Ліпінскай. Сядзім на лавачцы ў жнівеньскім сонцы на бандарскім «аседлі». Медсястра Эва купіла тут ад Міхалоўскай гміны кватэру і ўключылася ў дзейнасць бандарскага гуртка вясковых гаспадынь і гаспадароў. І яны ўсе карпатліва дбаюць аб тое, каб хораша і цікава тут жылося.

— О, стараемся. А аб гэтае квецце задбала во гэтая пані.

Насустрач ідзе, ад апошняга пад'езда блёка з нумарам 2 маладжавая пані (хаця ёй будзе дзевяноста)!

— О, Ева, акурат павезлі яго ў морг, — кажа гэта пра суседа з іншага блёка, маладзейнага ад яе больш чым напалову. — Хлопец раптам памёр. Сядзелі, вось. Гарачыня такая. У нас трох толькі што пайшлі на той бок. Во гляджу, «пагатове» там стаіць... Ён там пару дзён быў. Думалі, што паехаў да Новай Волі да мацеры... Там не адзін ён, там чатырох такіх пацягушчых. Мала што гарэлку яны пілі. А гэты то ажаніўся з адной з блёку, тут і жыў. Нідзе не рабіў, бо няма дзе... А я сама была з Лукі. І ў Луку замуж пайшла. А во, пані Эва, Анджэй Крысін памёр. І знаеце дзе, у гэтае Баські. Сесці... Здаецца што і сядаць кепска, і ўставаць кепска. Але як выйду на двор, то не чую так болю. І чую лепш, калі блізка сядзеш. Але пры гэтай «кароне» так блізка і не сядзеш, няможна. З Лукі я... Паненскае прозвішча Жукоўская, а цяпер Саўко. А, вы з Баравых? Адтуль была мая свякруха. Сястра Лідзінага Івана, Манька. А мая каляжанка, Ліда, выйшла замуж за Івана. У Ліды ў Францыі дочкі — Мірэй і Надзей. Прыедуць, станоуць, і пачнуць пасвойму гаварыць, нічога не паймеш. Шурык, старэйшы, таксама забыў мову.

— Калі заехалі ў Францыю, старэйшы, Шурык, — кажу пра свайго першага сябра, — не ведаў французскай, дык на яго ўсё «паляк-паляк», а ён злаваўся: я не паляк, я рускі! Беларус, значыць. Калі мы пайшлі ў школу, дык не ведалі польскай мовы.

— А Лідзіна сястра дзесьці на «Прусы» паехала, і больш я яе не бачыла, — уздыхае.

— З Лукі дэбютавала вершамі адна дзяўчына Хрысця Саўко.

— А я і яе мама. Крыся жыве цяпер у Гарадку, працуе ў школе.

Падбягаюць дзяўчаткі. Адна з іх — дачка Эвы, Моніка, самая з іх большая. .

— Я запрасіла іх на імпрэзы ў Рудні, гэта ж большасць для іх, каб пазналі былое гэтай старонкі, — кажа Эва. — Мерапрыемствы пра Рудню і затопленыя вёскі арганізавалі мы перш за ўсё для наступнага пакалення.

— Я — Тося Карпюк, я прыехала з Капітаншчыны.

— Ну дык ты сёння адзіная прадстаўніца Нараўчанскай гміны, мела быць больш дзяцей, але войт не даў машыны.

— Мы рабілі карту вёсак, што прапалі пад возерам. Мы ставілі хаткі з палачак, з трыснягу, з пяску... Рэчкай быў такі раўчук, які мы вырылі на пляжы, і нанасілі вёдрамі вады з возера.

— Я рабіла Буды!

— І Луку рабілі, і хутары, — пераклікаюцца малечы. — Гарбары, Бахуры... Якія файныя назвы. Намаляваныя карты паказвалі нам гарцэры, а апекавалася намі Гося.

— А мы вось маем бэджыкі: «Удзельнікі праекта», — дадае Моніка.

— А я з Гарадка, Вікторыя Карпюк, а мая мама з Каральчукоў.

— А цяпер бяжым на «падходы», не ведаем яшчэ, чаго будзем шукаць. Напэўна скарбаў мінуўшчыны.

— Не падабаецца мне арганізацыя імпрэзы, — надуваецца Бася. — Бо... занадта горача. Каб крышку халадней... А тут так хораша, на гэтым аседлі. Усюды кветкі, відаць, што жыхары дбаюць пра харастве як пры роднай хаце.

— Бабулькі сеюць кветкі!

— І па-гарадскому ўсе выгоды, і зараз тут поле, лес, і возера недалёка. Можна скокнуць па грыбы...

— У блёках ёсць вольныя кватэры, — дадае Эва Казарэз-Ліпінская. — Калі хтосьці цікавіцца, можа спытацца ў гміне ў Міхалове. Нядорага. Кватэры вялікія, цёплыя, выгадныя. Нам хацелася б мець новых файных суседзяў. А цікавяцца жыллём і з іншых рэгіёнаў. Я жыву ў кватэры, дзе пануе прынамсі саракагадовы фікус. Ён атлеў сцяну і столь. Гадавала яго папярэдняя гаспадыня, я і пакінула яго як ахоўніка дома. Здаецца, быў ужо прывезены з хаты, якая апынулася пад вадой. Такі стражнік памяці. Пусціў цяпер памаладкі — відаць, адобрыў мяне як гаспадыню, падабаюся яму, што так дбаю аб спадчыну.

Міра ЛУКША

## З „Нівай” быў у Баб'яй Гары і Гушчэвіне

Ад 7 да 14 верасня гэтага года я вазіў беларускі штотыднёвік „Ніва” чытачам, якія пражываюць у вёсках Нарваўскай і Нараўчанскай гмін Гайнаўскага павета.

7 верасня я ездзіў з матарызаваным гайнаўскім сябрам у Крывец і Макаўку Нарваўскай гміны. 10 верасня ездзіў на роверы ў Лешукі, 12 верасня ў Новіны ды 13 верасня — у Ахрымы, Падляўкова, Старое Ляўкова і Плянту.

14 верасня з сябрам самаходам завезлі мы „Ніву” чытачам у Нараўку, Гушчэвіну, Міклашэва, Альхоўку, Прэнты, Семяноўку, Баб'ю Гару і Баравыя. Зараз беларускі часопіс мае Асяродак экалагічнай адукацыі ў Семяноўцы.

На пошце ў Нараўцы я выслаў родны часопіс брату, які жыве ў Шчытне (зараз у верасні ён прыязджаў у родную вёску Новае Ляўкова, ездзіў з братам Кастусём на рыбалку). Брат Міхась „Ніву” чытае, мае ніўскі беларускі калядар на 2020 год. Ён — былы вайсковец і, між іншым, абітурыент белліцэя ў Гайнаўцы.

На пошце ў Нараўцы ўсе экземпляры „Нівы” № 37 ад 13 верасня гэтага года прадалі. Лістаноша Юрка Дрозд купіў мне яшчэ восем экземпляраў гэтага нумара на пошце ў Гайнаўцы і зараз яны ўсе ў чытанні. Найбольш чытачоў у маёй роднай вёсцы Новае Ляўкова. Тут найбольшае зацікаўленне „Нівай”.

Вечарам 15 верасня г.г. патэлефанаваў мне пастаянны чытач з каленіі Міклашэва Ян Драўноўскі (ён шмат гадоў быў радным Нараўчанскай гміны і старшынёй гміннай воднай суполкі „Лазовае”) і падзякаваў за газету. У Міклашэве „Ніву” чытае чатыры асобы. Для сябе я аставіў адзін экземпляр 37 нумара. Раблю гадавую падшыўку ўсіх сёлетніх нумароў. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. рошчына на самагонку = 3 _ 4 _ 13 _ 26 _ 27 _;
2. у трыядзе з надзеяй і любоўю = 41 _ 35 _ 39 _ 40 _;
3. запруда ў... Гацьках = 6 _ 7 _ 43 _ 44 _;
4. сістэма ўмоўных абазначэнняў для перадачы інфармацыі = 28 _ 2 _ 1 _;
5. бажаство, аб'ект захалення = 8 _ 20 _ 12 _ 23 _ 10;
6. блакітнакветная валакністая расліна = 33 _ 32 _ 34 _;
7. дрэва, што цвіце ў ліпені = 22 _ 42 _ 38 _ 37 _;
8. пузырыстая маса на ўзбуранай вадкасці = 16 _ 15 _ 14 _ 17 _;
9. збудаванне для абагравання хаты = 18 _ 21 _ 11 _;
10. прылада для ўзрыхляння глебы, якую цягнулі валы = 30 _ 29 _ 24 _ 9 _;
11. дзённае свяціла = 19 _ 25 _ 36 _ 31 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Амяла, боб, звязка, мезенец, сіла, сочка, Ціса.

Рашэнне: **Няма мяса без косці, а чалавека без злосці**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# 27.09 — 03.10

**(22.03. — 20.04.)** Да 29.09. пагасіш усе спрэчкі, асабліва сямейныя, сужэнскія. 27-30.09. будзеш адважны і ў дасканалым настроі. Хаця 26-30.09. можаш быць сфрустраваны. 27-30.09. зноў можаце адчуць у пары вялікую блізкасць. 1-2.10. будзе натхненне новымі задумамі і энергіяй для іх рэалізацыі. Добры час высветліць спадчынныя справы. Больш адпачывай.

**(21.04. — 21.05.)** Аздаровяцца нялёгкія рэляцыі ў парах. Пакладзі больш націск на навуку, дадатковыя курсы і абучэнні. Здабытыя веды не пойдуць упустую! Лёсу час ад часу трэба памагчы! Хоць можа не хапіць табе сілы, каб з усім справіцца; будзеш стомлены і раздражнены абы-якой дробяззю.

**(22.05. — 22.06.)** 27-30.09. можаш пачаць бурлівы раман. Жарсці і захапленні могуць табе перавярнуць увесь свет. Выклічаш у кімсьці вялікія жарсці і сам можаш проста ашалець! Але шмат спраў можа загразнуць у мёртвым пункце. Можаш страціць файную нагоду, спазніцца на важную сустрэчу, пагубіцца ў дарозе ці апынуцца дзесьці не ў тым месцы ці не на той час. У пачуццях нічога не рабі гвалтам і не камбінуй, каб не страціць вялікага кахання. І можаш выйграць у латарэю.

**(23.06. — 23.07.)** 27-30.09. можаш атрымаць крэдыт ці дафінансаванне; добры момант на негацыяцыі з шэфам наконт павышэння. 26-30.09. не фарсіруйся не бяры на сябе зашмат абавязкаў, не стрэсуйся, і вельмі дбай цяпер асабліва аб свой стрававальны шлях. Варта ініцыяваць новыя мерапрыемствы. Глядзі ўперад з энтузіязмам і верай. Сканцэнтруйся на старых, праверaных знаёмствах, не шукай новых прыгод. Спакой у фінансах для людзей працавітых і не баючыхся высілку.

**(24.07. — 23.08.)** 27-30.09. вольныя Львы будуць весці актыўнае кампанейскае жыццё; можаш смела выклікаць раман. 26-29.09. для шукаючых працу адкрыюцца дзверы, асабліва туды, дзе ты ўжо калісьці быў. Цудоўны настрой, мілыя людзі і добрыя весткі. Схочаш выявіць сваё каханне, калі б нават яго адкінулі. Пазнаёмся з асобай, з якой быў у цябе да гэтага часу толькі віртуальны кантакт.

**(24.08. — 23.09.)** 26-30.09. вельмі добры час на рамонты, ладжанне, змены ў інтэр'еры, можаш выкінуць старызну. Раней хадзі спаць. Не ўваходзь у інтарэсы са знаёмымі. Не натужвайся. Не старайся быць такім абсалютным перфекцыяністам, бо ніколі не будзеш задаволены!

**(24.09. — 23.10.)** 27-29.09. будзеш душой кампаніі. 27-30.09. пачаткам гарачага раману можа стаць рандэву, на якое выбярэшся можа без вялікай ахвоты. У пары прыліў чуласці і рамантычнасці. Не разганяйся, бо пры тармазах лёгка набіць сабе гузака! Можаш пагадзіцца з асобай, 27-30.09. калі хочаш укласці ашчаднасці, зрабі гэта. 26-30.09. лепш не ідзі на аперацыю, затое спакойна аддай сябе ў рукі касметолага, цырульніка...

**(24.10. — 22.11.)** 27-30.09. салодкая ўзнагарода ў пачуццях; першы працягні руку да пасвараных сваякоў ці сяброў. 27-30.09. шыкуюцца непрадбачаныя выдаткі. Будзь вельмі цяпер асцярожны за рулём, на тратуары. На пячонку прымай зёлкі. Не ўсе цябе падтрымаюць, але знойдзецца асоба, якая падасць табе моцную руку. Пазбягай сітуацыі, каб разлічваць на грошы таварыша.

**(23.11. — 22.12.)** 27-30.09. знакамітая нагода, каб глянуць адно аднаму глыбей у вочы і сказаць тое, што даўно хацелі. Пі больш зёлак і гарбат. У сям'і выхад: або скрыгіты, або пагляд праз пальцы, або адабрэнне; апошняе пойдзе на здароўе ўсім. Лепш у фінансах. Многа запалу. А Стральцы народжаныя пасля 19.12. — як нованароджаныя!

**(23.12. — 20.01.)** 26-30.09. горш з імунітэтам, адпомсцяцца занядбанні, аднавіцца можа кантузія, мусова будзе схадзіць да лекара. Не вер аздаравіцелям з інтэрнэту! Не рашайся на важныя фінансавыя ходы. Новыя перспектывы нясуць адказнасць; калі думаеш выплысці на шырокія воды, азірніся, ці ёсць побач выратавальная лодка.

**(21.01. — 19.02.)** 26-29.09. сустрэнешся з даўно нябачанымі сябрамі. 26-30.09. чакае цябе моцны адпор у адносінах да тваіх планаў. 27-30.09. можа ў цябе трапіць страла Амура, і будзеш шчаслівы з новым партнёрам, які (можа пакуль?) не будзе ад цябе патрабаваць дэкларацый. Добры час на размову з шэфам аб павышэнні, на навуку і кампанейскія поспехі. Памагчы могуць табе асобы, якіх як і цябе калісь падманулі. Вельмі дбай аб свае косці, бо нават калі спатыкнешся, можаш паламацца.

**(20.02. — 21.03.)** 27-30.09. найлепшы час на пачынанне новых мерапрыемстваў. Твае фінансавыя патрэбы вялікія, горш з заробкамі. Калі возьмеш большы крэдыт, мусіш прыцяць іншыя выдаткі. Адпачывай, пі многа вады. Добра ў развіванні талентаў. Самотныя Рыбы знойдуць сабе кагосьці старэйшага, вопытнага, стабільнага. Каштоўнасць чалавека не змераеш таўшчынёй яго кашалька!

Агата АРЛЯНСКАЯ

**З 17 па 20 верасня адбыўся ў Беластоку XXXIX Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2020». Мерапрыемства праходзіла ў канцэртнай зале Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Падлеснай.**


Фінальная сцэна

# Свята пяючай душы


Беластоцкі оперны хор



Ольштын



Гданьск

Сёлетняя эпідэміялагічная сітуацыя моцна паўплывала на размах фестывалю. У «здаровы» час арганізатары дамовіліся з трыццаццю харамі з чатырнаццаці краін Еўропы, Азіі і Афрыкі, якія задэкларавалі свой удзел у мерапрыемстве. Аднак удар эпідэміі моцна абмежаваў гэты лік. Ды не толькі — трэба было яго адтэрмінаваць з традыцыйнага мая аж на верасень, спадзеючыся сцішэння пошасці... З ходам часу той лік пастаянна падаў; пандэмія загуляла з ім быццам вецер з адуванчыкам. Выбылі ансамблі не толькі з найбольшага аддалення, але і ўсе «з-за Буга». Яшчэ напярэдадні інаўгурацыі было спадзяванне на некалькі хароў з балканскага напрамку. У апошні момант выбыў венгерскі хор св. Яфрэма з Будапешта. Меў прыехаць жаночы хор з Грэцыі, але з'явілася толькі яго дырыжорка і заснавальніца. Не прыехалі хары з Латвіі. З'явіўся толькі хор з Балгарыі і хары з Польшчы... «Нягледзячы на капрызы лёсу, музычнае сэрца Беластока б'ецца», — сказала ў ходзе інаўгурацыі вядучая імпрэзу Ілона Карпюк-Дамброўская.

Мерапрыемства пачалося з выканання *Gaude Mater Polonia* гданьскім Польскім камерным хорам Schola Cantorum Gedanensis пад кіраўніцтвам Яна Лукашэўскага. Затым была афіцыйная частка, дзе дырэктар Фестывалю Мікола Бушко прывітаў прысутных удзельнікаў і слухачоў. З прадстаўнікоў улад прысутнічалі падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі, прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі, сяброўка Ваяводскай управы Веслава Бурнос і іншыя.

Фестываль афіцыйна адкрыў прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі: «Год таму, калі тут было багацце выканаўцаў, ніхто не спадзяваўся што гэты год будзе так іншы ад папярэдняга. Думаю, што больш пільна будзем услухоўвацца ў сыходзячую з гэтай сцэны музыку. Стараюся бываць тут як толькі маю магчымасць, бо гэта вялікая духовая трапеза».

Інаўгурацыйны канцэрт быў прысвечаны юбілею 90-годдзя прафесара Рамуальда Твардоўскага, шматгадовага старшыні журы Фестывалю, аўтара шэрагу царкоўных музычных кампазіцый. Хор праспяваў *Sto lat* і *Многая лета*. Юбіляра віншаваў прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі. Віншавальны ліст ад Ваяводскай управы зачытала Веслава Бурнос. Дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі прафесар Эва Іжыкоўска-Ліпінска сказала: «Мая душа заспявала з вамі. Гэтая музыка — скрыжаванне Усходу з Захадам, які прафесар умее саткаць у гармонію душы ў магічным месцы, Браме Усходу, якою з'яўляецца Беласток. Гэта незвычайнае месца, незвычайны фестываль і незвычайна прыгожы канцэрт, бо нямногія аўтары сучаснай музыкі ў змозе ў такой ступені ўлавіць лірызм, які эманаваў з сённяшняга канцэрта. Лірызм, які вырастае з каранёў музыкі, якую прадстаўляе Рамуальд Твардоўскі».

Конкурсныя слуханні адбываліся 18 і 19 верасня. Журы Фестывалю склалі прафесар Рамуальд Твардоўскі з Варшавы, прафесар Віялета Мілкоўская з Беластока, а. Юры Шурбак з Варшавы, прафесар Повілас Гіліс з Вільні і прафесар Леон Забароўскі з Познані.

У першы дзень перад беластоцкай публікай выступілі хор грэка-каталіцкай Успенскай царквы з Варшавы, вакальны ансамбль «Esperimento» з Беластока, калектыў «Modo Maiorum» з варшаўскага пратэстанцка-рэфармаванага касцёла і хор «Bel Canto» з Ольштына.

У другі дзень мелі выступіць хары з замежжа і хор з Кракава. Заспявалі толькі кракаўскі хор «Cantata», грэчаская спявачка Нектарыя Каранці ды балгарскі хор «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны». Хор з Кракава праспяваў творы прадбачаныя яго праграмай, Нектарыя Каранці заспявала сола творы, якія меў выканаць ейны ансамбль «Псалтрыс», а хор з Сафіі апрача праграмных твораў праспяваў яшчэ нізку пазаконкурсных спеваў.

Фестывальнае журы мела нескладаную задачу. У катэгорыі прыходскіх хароў першае месца прысуджана было варшаўскім хору Успенскай царквы, другое хору пратэстанцкага касцёла. У катэгорыі аматарскіх хароў першае месца прысуджана хору «Bel Canto» з Ольштына, другое хору «Cantata» кракаўскай палітэхнікі і трэцяе беластоцкаму ансамблю «Esperimento». У катэгорыі прафесіянальных хароў першае месца ўзяў адзіны ў гэтым разрадзе хор «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны» з Сафіі. Спецыяльны прыз быў прысуджаны Нектарыі Каранці. Вылучэнні атрымалі ўсе дырыжоры: Крыстыян Папоў з Сафіі, Ян Палавянюк з Ольштына, Марта Стус з Кракава, Барбара Карнацкая з Беластока ды Лукаш Рэйт і Міхал Страшэўскі з Варшавы.

Фінальны гала-канцэрт быў прысвечаны памяці памерлага сёлета мастацкага патрона Фестывалю, выдатнага польскага кампазітара Кшыштафа Пэндэрэцкага. У першай частцы выступілі ўзнагароджаныя хары: Успенскі з Варшавы, з Беластока, з Кракава і Сафіі. У другой частцы выступіў хор Падляшскай оперы і філармоніі пад кіраўніцтвам Віялеты Бялецкай. А завяршыўся канцэрт велічным выкананнем зборным харам — «Cantata», «Святы Йоан Кукузел Ангелагалосны» і Падляшскай оперы і філармоніі — віншавання «Многая лета» і фестывальнага *credo* „Тебе поемъ, Тебе благословимъ, Тебе благодаримъ, Господи! И молимъ ти ся Боже нашъ!"

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 39